# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 7 (781) ГОД XVI БЕЛАСТОК 14 ЛЮТАГА 1971 г. ЦАНА 60 гр.

## XV ГОД

## Валя Андрэюк і яе ІДЭІ

— Ваша грамадска-культурная дзейнасць звязана з рыбалаўскім тэатральным калектывам.

— Калектыў наш працуе пяць год. Тры гады я ў ім прымала ўдзел як артыст-аматар, а калектыў тады вёў Сяргей Філіпюк, наш кіраўнік школы. Ужо два гады я сама вяду гэты калектыў.

— Ці былі нейкія вашыя ўласныя задумы адносна ролі і працы такога калектыву?

— Галоўнай маёй мэты, якую я задумала, на жаль, я не дасягнула. Хацела я стварыць тэатр паэзіі, або паэтычную эстраду.

— Прычыны?

— Названыя формы вышэйшыя па ўзроўню. Людзі ў калектыве толькі паступова могуць з гэтай формай асвойвацца. Сама форма тэатра паэзіі не мае традыцыі ў нашых асяроддзях.

— Але традыцыяй Рыбалаў сталіся ваенныя і партызанскія п'есы.

— Гэта вельмі цікавая з'ява. Тут і выканаўцы, і гледачы вельмі прызвычаіліся да такіх п'ес. Выраслі вельмі здольныя выканаўцы салдацкіх і партызанскіх роляў. Ваенныя ролі ўвайшлі ў кроў людзей і яны нават у неваенных п'есах іграюць на ваенны манер.

— Якія людзі ў калектыве, колькі іх?

— Цяпер 20 чалавек. Усе заняты падрыхтоўкай адначасова трох беларускіх п'ес: у адной прымае ўдзел 9 асоб, у другой — 7, у трэцяй — 5. Гэта моладзь. У апошні час прыйшлі ў калектыў зусім новыя людзі, якіх я нават не спадзявалася. Некаторыя спачатку хацелі весці сябе даволі свабодна. Але тут жа старыя кадры калектыву ўзяліся за выхаванне, і з вялікай прыемнасцю хачу сказаць, што дапамаглі мне.

— Старыя кадры маладых?

— Так, я іх з прыемнасцю назаву: Віця Вішнеўскі, Ніна Ігнацюк, Янка Апалінскі, Валя Нікалаюк. Гэта аснова нашага калектыву, галоўны наш актыў. З ім можна пачынаць кожную карысную працу, яны не падвядуць.

— Адкуль вашы зацікаўленні тэатральнай формай мастацкага самадзейнага руху?

— Спачатку я была звязана з гэтай формай як аматар. А потым пачала вучыцца ў тэатральнай студыі ў Гданьску і зразумела тады, што гэта мая прафесія. Не адступлю ад далейшай вучобы ў гэтым напрамку. Пасля Гданьска, там я канчаю ў гэтым годзе, паступлю ў цэнтральную тэатральную студыю ў Варшаве.

— Як знайшлі вы дарогу да гэтай вучобы?

— Выпадкова. Падчас аднаго выступлення нашага калектыву ў Бельску людзі з Беларускага таварыства параілі мне паступіць на тэатральны курс пры беластоцкім ВДК. Там жа зацікавілі мяне магчымасцю далейшай вучобы ў Гданьску.

— А прыдатнасць такой вучобы ў вашай працы?

— Велізарная! Каб я, ведаеце, не пачала вучыцца, то я б таксама ставіла толькі «Мікітаў лапаць». Не ведала б іншых форм. Вучоба мне дае многа. У студыі маем дачыненне з лепшымі рэжысёрамі, бываем на кожнай рэпетыцыі тэатра «Выбжэжэ», слухаем лекцыі па культуры мовы, культуры жэсту, рыхтуем пробна паэтычна-эстрадныя канцэрты, для якіх пішам мантажы паэзіі, прозы ці мяшаныя. Марэк Акапінскі — рэжысёр тэатра «Выбжэжэ» ў Гданьску, наш выкладчык адначасова,



Працяг на стар. 4

МОЙ РОДНЫ КУТ



Рака Нараўка. Фота: Я. Цялушэцкі



*Гайнаўка. Новы будынак Тэхнікума дрэваапрацоўчай прамысловасці.*

*Фота: Я. Цялушэцкі.*

У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМІСІІ

## Палітычна-выхаваўчая праца ў бельскім аддзеле

27.I.71 г. у Бельску адбылося выязное пасяджэнне Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Тэмай пасяджэння была інфармацыя аб палітычна-выхаваўчай працы праўлення аддзела БГКТ у Бельску. Інфармацыю зрабіў старшыня аддзела Мікалай Гайдук. Ахоплівала яна двухгадовы перыяд, гэта значыць, ад выбараў праўлення.

Прывядзем цікавейшыя факты. Аддзел налічвае 1689 членаў Сацыяльны склад: сяляне — 1328, інтэлігенцыя — 295, рабочыя — 66. Значыць, аддзел сялянскі са значным працэнтам інтэлігенцыі і слабым прадстаўніцтвам рабочага асяроддзя. Жанчыны складаюць у бельскім аддзеле 52%. 66% членаў — людзі маладыя. Параўнальна высокі ўзровень адукаванасці. З вышэйшай і няпоўнай вышэйшай адукацыяй ёсць у аддзеле 149 членаў, з сярэдняй адукацыяй — 780 членаў і з падставовай — 760. Цікавыя даныя і аб удзеле членаў аддзела ў жыцці партыйных і маладзёжных арганізацый. Належыць да іх 1171 членаў, у тым ліку: да ПАРП — 19%, да ЗМВ — 45%, да ЗСЛ — 4%.

Наогул праца аддзела цесна спалучана з дзейнасцю мясцовых арганізацый і ўстаноў. Добрыя дасягненні аддзел мае ў мастацкай самадзейнасці. Яго калектывы займаюць вядучыя месцы ў ваяводскіх аглядах. Выпрацавана тут таксама добрая форма працы з настаўнікамі. Сістэматычныя канферэнцыі, якія праўленне бельскага аддзела (супольна з асветнымі ўладамі) праводзіць з настаўнікамі, могуць служыць прыкладам для іншых аддзелаў. Ёсць зрух і ў колькасці падпісчыкаў «Нівы». У 1969 г. было іх у Бельскім павеце 1420, у 1970 — звыш 1900.

Асноўны недахоп: малы актыў праўлення, які мог бы абслугоўваць гурткі. Не выйшаў таксама конкурс на фальклорныя калектывы.

Цікавым дапаўненнем да інфармацыі было выступленне члена праўлення аддзела, настаўніцы з Пасынак А. Панасюк. Яна расказала аб працы гуртка БГКТ у Пасынках, які з'яўляецца ініцыятарам культурна-асветнай дзейнасці ў сваёй мясцовасці. Між іншым, па яго ініцыятыве вядуцца тут розныя курсы (сельскагаспадарчы, санітарны, беларускай мовы), члены гуртка запісваюць мясцовыя народныя песні і ўдзельнічаюць у працы драмгуртка. Яны таксама сярод першых у грамадскіх чынах. А ёсць тут чым пахваліцца. У конкурсе на найчысцейшую вёску ў ваяводстве Пасынкі занялі першае месца. Праца, праведзеная грамадскім чынам пры ўпарадкаванні вёскі, склала суму 400 тыс. зл. 50 тыс. злотых склаў іншы грамадскі чын Пасынак — будова дарогі да Локніцы.

Высокую ацэнку атрымаў бельскі аддзел БГКТ у выступленнях членаў Нацыянальнай камісіі і запрошаных гасцей: сакратара ПК ПАРП тав. Р. Матосюка, сакратара ГП БГКТ

Працяг на стар. 4

## БГКТ ХРОНІКА

- Адказваем на лісты з Гданьскага ваяводства: сядзіба гданьскага аддзела БГКТ знаходзіцца на вуліцы Длугі Тарг 8/10. Тэлефон 31-58-42. Памяшканне аддзела адкрыта ад 17.00 да 21.00 гадзіны ў сераду, чацвер, суботу і нядзелю.

- 16-га студзеня мілейчыцкі гурток БГКТ традыцыйнай вечарынай адкрыў карнавальны сезон. На вечарыне прысутнічала 90 асоб. У гэты дзень многія аплацілі членскія складчыны, разам — на суму 700 зл.

- 24-га студзеня гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў навагоднюю ёлку для дзяцей, бацькі якіх з'яўляюцца членамі БГКТ. Дзецям былі паказаны савецкія фільмы-казкі. Тым дзецям, якія выступілі з вершамі і песнямі, дзед Мароз даваў цукеркі і кніжкі.

- 27-га студзеня варшаўскі аддзел БГКТ у Доме савецкай культуры арганізаваў урачысты вечар, прысвечаны 52-ой гадавіне Савецкай Беларусі. З дакладам выступіў член прэзідыума варшаўскага аддзела Віктар Швед.

- 28-га студзеня адбыўся пленум гайнаўскага аддзела БГКТ. Пленум падсумаваў дзейнасць праўлення аддзела і прэзідыума на 1971 год. У пасяджэнні прыняў удзел сакратар ГП Янка Зенюк.

- 29-га студзеня праўленне бельскага аддзела арганізавала вечарыну для актыву і хору з нагоды 52-ой гадавіны Савецкай Беларусі і 15-ай гадавіны БГКТ.

- У рамах супрацоўніцтва з сярэднімі школамі 30-га студзеня гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў вечарыну для моладзі малочнага і будаўлянага тэхнікумаў, на якой прысутнічала 80 асоб, у тым ліку настаўнікі і прадстаўнікі бацькоўскіх камітэтаў. Вечарына пачалася сустрэчай моладзі з журналістам «Нівы» Аляксеем Карпюком. Па просьбе настаўнікаў наш паэт Алесь Барскі чытаў свае вершы.

- Пад кіраўніцтвам сакратара беластоцкага павятовага аддзела Валі Філіпюк 2-га лютага адбылася нарада старшынь гурткоў БГКТ, прысвечаная падрыхтоўцы конкурсаў на беларускую песню і драматычных калектываў з беларускім рэпертуарам. (мх)

# VIII ПЛЕНУМ ПАРП

6 і 7 студзеня г.г. адбыўся VIII пленум ПАРП. Прысвечаны ён быў ацэнцы снежаньскіх падзей і актуальным заданням партыі. Друкуем некаторыя моманты з выступлення I сакратара ЦК ПАРП Эдварда Герка:

«20 снежня 1970 года на VII Пленуме ЦК адбыліся важныя палітычныя змены. Адбыліся яны ў цяжкой сітуацыі, у атмасферы вялікай адказнасці за лёсы краіны і справы сацыялізма. Такім чынам завяршыліся трагічныя выпадкі на Узбярэжжы, якія глыбока ўскалыхнулі партыяй і ўсім грамадствам. Прадухілілі мы тады небяспечныя падзеі, ліквідавалі грамадскае напружанне, якое існавала ў той час і гвалтоўна нарастала не толькі на Узбярэжжы, але таксама і ў іншых цэнтрах краіны і магло мець трагічныя вынікі.

Беспасрэднай прычынай снежаньскіх выпадкаў было павышэнне 12 снежня цэн прадуктовых тавараў першай патрэбы. Цэны на прадукты павысіліся, а зарплаты — не, і сем'і з найніжэйшымі даходамі найбольш адчулі павышэнне цэн.

Выступленні рабочых гданьскай верфі, а таксама рабочых іншых гарадоў Узбярэжжа мелі спачатку спакойны характар. Аднак улады не праводзілі з рабочымі шчырай размовы, не намагаліся, каб напружанне ліквідаваць. У выніку гэтага рабочыя выйшлі на вуліцу. На вуліцах іх дэманстрацыі пераўтварыліся хутка ў стыхійныя выступленні, якіх не хацелі ўдзельнікі рабочай дэманстрацыі, але не былі ў стане паўстрымаць. Трагедыя выпадкаў на Узбярэжжы заключалася перш за ўсё ў тым, што не былі прыняты палітычныя сродкі для ліквідавання напружання. Улады абмежаваліся прымяненнем сілы. Гэта не толькі не ліквідавала крызісу, але наадварот, прывяло да яго завастрэння, паглыблення і пашырэння, пагражала нават катастрофай.

Драматычная сітуацыя заключалася ў тым, што кіраўніцтва партыі і ўраду не зразумела характару выпадкаў, а асабліва іх прычын. Крыніцы таго, што рабілася на Узбярэжжы, наогул крыніцы існуючага напружання шукалі яны толькі і выключна ў дзейнасці ворагаў грамадства, а нават ацэньвалі, што выпадкі гэтыя маюць рысы контррэвалюцыйныя. Такі пункт гледжання быў не толькі памылковы, але таксама катастрафальны ў сваіх выніках.

Рабочыя выступленні на Узбярэжжы, а ад іх пачалося, таксама як і праявы незадаволенасці ў іншых цэнтрах краіны, не былі накіраваны супраць сацыялістычнага ладу і яго галоўных прынцыпаў. Рабочы клас, людзі працы рашуча адкідалі спробы падсоўвання ім варожымі сіламі антысацыялістычных лозунгаў.

Такі быў грамадскі і палітычны фон, такі быў характар снежаньскіх выпадкаў. На Узбярэжжы мелі яны трагічны характар. Загінула або памерла ад ран у шпіталях 45 чалавек. Раненых было 1165, у тым ліку 564 цывільныя асобы, 531 міліцыянер і армовец, 70 салдат і афіцэраў Войска Польскага. Сярод агульнай лічбы раненых 153 асобы былі паранены агнястрэльнай зброяй.

Зразумела, што крыніцы снежаньскага крызісу нельга бачыць толькі ў незадаволенасці, выкліканай павышэннем цэн і спосабам яго правядзення.

Крызіс нарастаў ужо шмат год і меў глыбокія прычыны. Як мы ўжо сцвердзілі пасля VII Пленума Цэнтральнага Камітэта, галоўнай яго крыніцай было аслабленне і ў выніку глыбокае парушэнне неабходнай у нашым грамадскім ладзе сувязі паміж кіраўніцтвам партыі і рабочым класам, а таксама іншымі слаямі працоўных. Ужо доўгі час нарастала і пашыралася незадаволенасць з гаспадарчай і сацыяльнай палітыкі, са спосабу кіравання справамі партыі і дзяржавы. Незадаволенасць гэтая пераўтварылася ў крызіс даверу да кіраўніцтва партыі і ўраду. Таму снежаньскі крызіс можна назваць перш за ўсё крызісам даверу.

Галоўнай мэтай сацыяльнай эканомікі і падставовым прынцыпам палітыкі партыі і народнай дзяржавы павінна быць імкненне да ўсё лепшага матэрыяльнага быту грамадскасці. Галоўнай памылкай ў палітыцы партыі і ўраду ў апошнія гады было тое, што гэты прынцып на практыцы не рэалізаваўся.

На гаспадарчую і грамадскую палітыку ў апошнія гады асабліва адмоўны ўплыў рабіў недахоп перспектыўнай канцэпцыі грамадска-эканамічнага развіцця краіны. Эканамічная палітыка ўстанаўлівалася аднаразова, а ў апошні перыяд часта зусім непрадумана. Высоўваліся нечакана штораз новыя праекты змен, недапрацаваных, аднабаковых, або нават памылковых, не вытрымліваючых рэальных магчымасцей.

Справа тут не ў тым, каб звальваць адказнасць за памылкі на дзеячоў, якія адыйшлі, а знімаць яе цалкам з нас усіх. Было б можа гэта лёгка, але так нам паступаць нельга. Кожны з нас нясе частку адказнасці за тое, што было, хаця, напэўна, не размяркоўваецца яна аднолькава.

Усе прычыны і крыніцы нядаўніх выпадкаў зводзяцца толькі і выключна да адступлення ад правільнай палітычнай лініі партыі, ад ленінскіх норм яе функцыяніравання. Ацэньваючы з гістарычнай перспектывы лёс нашага народа, генеральная лінія будовы сацыялізма ў Польшчы пад кіраўніцтвам партыі застаецца лініяй слушнай і непарушнай.

Ёсць у нас усякія, унутраныя і знешнія ўмовы для паспяховага сацыялістычнага будаўніцтва, для высоўвання смелай праграмы на будучыню, для ўмацнення сувязі і паглыблення даверу паміж партыяй і ўсім грамадствам.

Найважнейшым з усіх задач, якія стаяць сёння перад намі, з'яўляецца запэўненне развіцця прадукцыі і росту прадукцыйнасці працы, а на гэтай падставе можна будзе паправіць умовы матэрыяльнага быту людзей працы, палепшыць сацыяльнае становішча.

Галоўны сэнс сацыялістычнай эканомікі заключаецца ў тым, каб працаваць для чалавека, для яго матэрыяльных патрэб. Паводле гэтага прынцыпу мы будзем праводзіць нашую гаспадарчую палітыку. Памылкай было б аднак зводзіць прыватнае і грамадскае жыццё, як гэта мае месца ў капіталістычных краінах, выключна да карыстання з матэрыяльнага дабра. Таксама важным у жыцці кожнага чалавека з'яўляецца пачуццё сацыяльнай бяспекі, тое, у якіх грамадскіх умовах ён працуе, якім мэтам прысвячае свае веды і энергію, якія перспектывы бачыць перад сабой, перад сваімі дзецьмі ў сваёй краіне.

Надзвычай важнай справай з'яўляецца апрацоўка стратэгіі далейшага грамадска-гаспадарчага развіцця. Нам неабходна вызначыць такую стратэгію, каб вызначыць падставовыя грамадскія і гаспадарчыя мэты не толькі на перыяд бліжэйшых 5-яці год, але на цэлую дзесяцігодку. Запрапануем Цэнтральнаму Камітэту, каб на адным з пленарных пасяджэнняў абмеркаваць заданні да 1975 года. Адначасова аднак будзем працаваць над праграмай развіцця гаспадаркі да 1980 года.

Генеральным напрамкам перспектыўнай стратэгіі павінна быць мадэрнізацыя нашай нацыянальнай гаспадаркі, уваход на шлях навукова-тэхнічнай рэвалюцыі.

У даны момант неабходна правесці тэхнічную рэканструкцыю шэрагу галін прамысловасці. Прадугледжваем цэлы шэраг сур'ёзных комплексных капіталаўкладанняў у машыннай, электранічнай і электратэхнічнай, горнай, хімічнай і лёгкай прамысловасцях. Гэтыя капіталаўкладанні павінны вырашыць праблемы прадукцыі найважнейшых машын, абсталявання і тавараў, у якіх мы хочам дасягнуць высокую ступень спецыялізацыі.

У перспектыўным грамадска-эканамічным развіцці важнае месца займаюць справы вёскі. Трэба заўсёды памятаць, што добрае развіццё сельскагаспадарчай прадукцыі з'яўляецца неабходнай умовай для паляпшэння жыцця насельніцтва ў гарадах і на вёсцы. Палітыка партыі прынесла сур'ёзнае развіццё гэтай прадукцыі. Партыя наша разам з Аб'яднаным людовым стронніцтвам будзе творча працягваць датыхчасовую лінію ў галіне сельскай гаспадаркі. Мы будзем прымаць новыя рашэнні, якія б запэўнілі далейшае развіццё сельскагаспадарчай прадукцыі ў сялянскіх гаспадарках, спалучаючы рэалізацыю гэтага задання з развіццём сацыялістычных пераўтварэнняў на вёсцы. Звернем перш за ўсё ўвагу на паляпшэнне абслугоўвання сялян, бо не павінны яны наражацца на бюракратычныя клопаты пры афармленні розных спраў, звязаных з прадукцыяй, продажам і купляю. Мы будзем надалей намагацца, каб паправіць якасць сродкаў прадукцыі і прылад для працы, якія дастаўляюцца вёсцы. Будзем падтрымліваць сельскагаспадарчыя гурткі і кааператывы ў пашырэнні сельскагаспадарчай культуры і ў распаўсюджванні прадукцыйных паслуг, асабліва ў галіне механізацыі працы. У сувязі з існуючай на вёсцы рабочай сілай неабходна сканцэнтраваць у акрэсленых раёнах развіццё адпаведных прамысловых культур, гародніны і фруктаў, а таксама развіццё пагалоўя хатняй жывёлы. Такі працэс можна заўважыць да гэтага часу толькі ў некаторых раёнах краіны.

Падтрымліваючы надалей развіццё здаровых, даючых таварную прадукцыю сялянскіх гаспадарак, мы павінны аднак вырашыць, што трэба будзе зрабіць у будучыні з гаспадаркамі слабымі, занядбанымі. Ужо цяпер перад намі стаіць праблема, як пераняць і адпаведна загаспадарыць каля мільёна гектараў зямлі дзяржаўнага фонду і зямлю, якую перадаюць дзяржаве людзі старыя, якія ўжо не маюць сіл гаспадарыць. Трэба мабілізаваць усе неабходныя сродкі, каб зямля занядбаных гаспадарак і зямля без наследнікаў была загаспадарана ПГР-амі, прадукцыйнымі кааператывамі, сельскагаспадарчымі гурткамі, а таксама прыватнымі асобамі.

Неабходна даследаваць, якая ёсць магчымасць паступовага ўвядзення агульнай сістэмы грамадскага страхавання на вёсцы. Неабходна апрацаваць прынцыпы гэтакай сістэмы і распланаваць тэрміны яе ўвядзення ў жыццё. Гэта будзе мець вялікае грамадскае і гаспадарчае значэнне, а, між іншым, затрымае на вёсцы маладых, адукаваных гаспадароў, якія працягваць будуць развіццё і грамадска-гаспадарчыя пераўтварэнні ў сельскай гаспадарцы.

Я перакананы, што вясковая моладзь будзе працаваць у сельскагаспадарчых прафесіях, якія з'яўляюцца таксама патрэбныя і ганаровыя, хаця разам з тым цяжкія, як і іншыя сучасныя прафесіі.

Важнай справай, маючай значэнне для далейшага грамадска-эканамічнага і палітычнага развіцця краіны, з'яўляецца правільнае вырашэнне праблем маладога пакалення. Ужо пяць год уваходзіць у жыццё маладое пакаленне палякаў, якое нарадзілася, выхавалася і вывучылася ў народнай Польшчы. Перад намі стаіць задача поўнасцю выкарыстаць маладую энергію, здольнасці, кваліфікацыі і самаахвярнасць гэтага пакалення для далейшага сацыялістычнага развіцця Айчыны.

Далейшае развіццё сацыялістычнага будаўніцтва ў Польшчы непарыўна звязана з развіццём сацыялістычнай дэмакратыі.

Трэба стварыць неабходныя ўмовы, каб ва ўсіх арганізацыях і ўстановах грамадскага жыцця пашыраўся і паглыбляўся актыўны ўдзел рабочага класа, сялян, інтэлігенцыі, моладзі, усіх людзей добрай волі. Мы перакананы, што развіццё сацыялістычнай дэмакратыі разбудзіць грамадскую актыўнасць і ўмацняць будзе адзінства народу. Бачым, такім чынам, неабходнасць разгледжання па-новаму задач і ролі нашых арганізацый і ўстаноў.

Партыя наша працягвае слушную замежную палітыку. Ва ўсіх галоўных праблемах барацьбы за ўмацаванне пазіцыі і адзінства сацыялістычных дзяржаў, а таксама цэлага міжнароднага камуністычнага руху, барацьбы за бяспеку і мір на свеце партыя наша супрацоўнічала з КПСС і іншымі братнімі партыямі.

Польская Народная Рэспубліка будзе імкнуцца да таго, каб усё больш цесныя ідэалагічныя, палітычныя, і культурныя сувязі спалучалі нас з братнімі сацыялістычнымі краінамі. Мы будзем супольна развіваць усебаковае супрацоўніцтва ў рамах РВПГ».

Цэнтральны камітэт поўнасцю адобрыў ацэнку снежаньскіх падзей, а таксама заданні, накрэсленыя ў дакуменце Палітычнага Бюро і ў выступленні I сакратара ЦК, даючы ўраду ўказанні энергічна працягваць працу над далейшай канкрэтызацыяй задач бягучага года і 5-гадовага плана. Пленум прызнаў мэтазгодным прыспешыць VI з'езд партыі.

У арганізацыйных справах пленум завесіў ў правах члена ЦК Ул. Гамулку, а З. Клішка і Б. Яшчука выключыў са свайго складу. Пленум прыняў таксама рэзыгнацыю з функцыі члена Палітычнага бюро і сакратара ЦК С. Кацёлка і рэзыгнацыю з члена Палітычнага Бюро І. Логі-Савінскага.




**Niedziela — 14.II.1971**

7.50 Program dnia. 7.55 Kurs Rolniczy. 8.30 Przypominamy, radzimy. 8.50 „Klub Śmiałych". 10.05 Reportaż z międzynarodowych zawodów w łyżwiarstwie szybkim na lodzie. 11.00 „Marmurowa Wenus". 11.30 Dziennik. 11.45 Przemiany. 12.15 „Łucja z Lammermoor". 13.00 „Dr Ewa". 13.35 Międzynarodowe zawody narciarskie o Puchar Tatr — otwarty konkurs skoków. 15.30 „Piosenka dla Ciebie". 16.20 „Wielka gra". 17.10 „Melodie Wielkiego Ekranu". 18.10 PKF. 18.20 Studio 63: Adam Mickiewicz „Pan Tadeusz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Wielki Caruso" — film fab. USA. 21.50 Magazyn sportowy. 22.20 „Nauki Mistrza Kajetana".

**Poniedziałek — 15.II.1971**

16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 18.00 „W Beskidzie Śląskim". 18.30 „W górach Wysokiego Atlasu". 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: Noel Coward — „Seans". 21.25 „Literatura współczesna w NRF". 21.40 „Amsterdam na pięciolinii". 22.40 Dziennik.

**Wtorek — 16.II.1971**

11.05 „Pierwszy nauczyciel" — film fab. radz. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze. 15.20 i 23.15 Politechnika TV. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran Młodych. 18.30 „Czerwony Krzyż na stepie". 18.45 „Szlakiem Dobrej Roboty". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Pierwszy nauczyciel" — film fab. radz. 21.35 „Śpiewa Marta Kubisova". 21.55 „Polska zza siódmej miedzy". 22.25 Dziennik.

**Środa — 17.II.1971**

10.30 „Nie ma odwrotu" — film tv ang. („Saga rodu „Forsytów"). 12.45 „Wybieramy zawód". 15.20 i 22.45 Politechnika TV. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Trema". 17.15 Magazyn ITP. 17.30 PKF. 17.40 „Perspektywy techniki". 18.10 „Trzy żywioły". 18.35 TV Kurier Warszawski. „18.50 „Rezerwowa zmiana". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Nie ma odwrotu" — film tv ang. („Saga rodu Forsytów"). 20.55 „Światowid". 21.25 Estrada Studencka. 21.55 „W obronie konsumenta". 22.25 Dziennik.

**Czwartek — 18.II.1971**

16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Ekran z bratkiem". 17.45 „Zrób to sam". 18.00 „Poligon". 18.30 TV Kurier Białostocki. 18.45 „Autor i jego piosenki" — Edward Fiszer. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr „Kobra": J. Weychert — „Czwarty manekin". 21.35 „Koncert E-moll F. Chopina" w wyk. laureatów trzech pierwszych nagród VIII Międzynarodowego Konkursu Pianistycznego im. F. Chopina w Warszawie. 22.15 „Lektury współczesne". 22.25 Dziennik.

**Piątek — 19.II.1971**

9.50 „Walc" — film fab. radz. 10.55 Dla szkół. 11.25 „Cena lekcji" — film TVP („Dr Ewa"). 14.50 Fizyka dla nauczycieli: „Metodyka realizacji działu „Budowa atomu". 15.20 i 23.15 Politechnika TV. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora". 17.35 „Nie tylko dla pań". 18.00 „Gramy o telewizor". 18.30 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 Magazyn Medyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Cena lekcji" — film TVP („Dr Ewa"). 20.45 „Kraj". 21.25 Teatr TV: S. Schneider — „Portret". 22.55 Dziennik.

**Sobota — 20.II.1971**

8.25 „Towarzysze podróży". 15.15 Program dnia. 15.20 TV Kurs Rolniczy. 15.55 „Oferty". 16.10 Program tygodnia. 16.30 Dziennik. 16.45 XVI Trójmecz harcerski. 17.45 „Spotkania z przyrodą". 18.10 „Szlakami zabytków". 18.45 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Polskie Nagrania przedstawiają". 21.20 Dziennik TV + Kronika sportowa. 21.50 „Noc" — film fab. włoski.




**Piątek, 12 lutego**

8.15 Dla dzieci. 8.45 Film fab. 10.05 Siatkówka. CSKA — „Radiotechnik" (Ryga). 15.00 Przed XXIV zjazdem KPZR. 15.00 Film animowany. 16.05 Festiwal republik radzieckich. Estonia. 17.30 Opera. 20.00 Teatr miniatur. 21.00 Wieczorne melodie.

**Sobota, 13 lutego**

8.30 Dla dzieci. 8.45 Śpiewa Borys Sztokołow. 9.25 Film. 9.45 Poeci BSRR. 10.00 TV mecz pływacki. Tallin — Ryga — Wilnius — Mińsk. 11.45 Porady lekarza. 12.00 Twórczość P. Podkowyrowa. 12.45 Uniwersytet ludowy. 14.15 Dla wsi. 14.45 Film fab. 16.05 W świecie zwierząt. 17.15 Ameryka. 17.50 Film fab. 19.30 W eterze „Młodość".

**Niedziela, 14 lutego**

8.00 Kalendarz TV. 8.30 Film fab. 9.30 Filmy animowane. 10.00 Drogą ojców. 10.30 Kiosk muzyczny. 11.00 Dla uczniów. 12.00 Kronika IV zimowej spartakiady. 12.15 Koncert chóru. 12.45 Białe i czarne. 13.15 Dla wsi. 13.45 Filmy animowane. 14.15 Program młodzieżowy. 14.45 Film fab. 16.35 Klub filmowy. 17.30 Między zjazdami. 17.50 Koncert życzeń. 19.00 Spektakl TV. 20.35 Śpiewa kwartet „Akord". 21.30 Tańczcie z nami.

# „НІВА" — ПЕРАМОЖЦА КОНКУРСУ САМААБАРОНЫ


*Урачыстае заканчэнне конкурсу.*

Ваяводскі вайсковы штаб і Ваяводскае праўленне ЛОК аб'явілі ў мінулым годзе конкурс для беластоцкіх журналістаў з галіны ўсеагульнай самаабароны. Складаўся ён з двух этапаў. У першым трохасабовыя рэдакцыйныя дружыны сустрэліся ў палявых умовах. Тут спаборнічалі яны ў стральбе і ходзе па азімуту. Аказалася, што страляць і хадзіць «Ніва» ўмее найлепш (нездарма даходзім мы да найдалейшых вёсак!). У другім этапе кожны з удзельнікаў павінен быў напісаць і апублікаваць матэрыял на тэму ўсеагульнай самаабароны. Наш калектыў абараніў заваяванае ў полі месца.

21 студзеня г.г. у клубе ВРН адбылося ўрачыстае заканчэнне конкурсу. У гэтай урачыстасці апрача ўдзельнікаў конкурсу прысутнічалі намеснік старшыні ПВРН Р. Лазаровіч, шэф Ваяводскага вайсковага штаба палкоўнік З. Катоўскі, старшыня ВП ЗБоВіД Я. Анацік, намеснік старшыні ВП ЛОК Э. Залескі і кіраўніцтва беластоцкіх рэдакцый.

Тут былі падведзены вынікі конкурсу і ўручаны ўзнагароды: I месца — «Ніва», II — «Беластоцкая газета», III — «Наша Весь».

Наша дружына, якая выступала ў складзе: А. Карпюк, В. Рудчык і С. Рыбі, — заваявала пераходны кубак шэфа Ваяводскага вайсковага штаба. Цяпер стаіць перад ёй баявое заданне: абараніць кубак. Кубак прыгожы і іншыя рэдакцыі абяцаюць вострую барацьбу за яго.


*Шэф Ваяводскага вайсковага штаба палкоўнік Збігнеў Катоўскі ўручае пераходны кубак галоўнаму рэдактару «Нівы» Георгію Валкавыцкаму.*
*Фота Цаф — Сянько*




## СЯБРЫ ЦІ СЯБРОЎКІ

У справе лісту Галі прыслала нам пісьмо Галіна Р. з Семяноўкі. Як піша Галіна Р., яна малодшая ад Галі, але ўсё ж хацела б выказаць некалькі сваіх думак. Галіна Р., як і многія іншыя, піша, што Галя не апынулася ў такой цяжкой сітуацыі, з якой няма выйсця. Галя ж мае двойку па польскай мове і хіміі, а ёсць цяжэйшыя прадметы, як хаця б матэматыка, і па гэтаму прадмету Галя не мае двойкі. Галіна Р. піша проста: «На маю думку, калі можаш вывучыць матэматыку, то, калі пастараешся, дык вывучыш і гэтыя прадметы».

Аднак Галіна Р. з Семяноўкі разглядае ў сваім пісьме яшчэ справы іншага характару. А вось яны:

«Дарагая Галя! Можа ты апынулася ў неадпаведным кругу «сяброў»? Цікавяць мяне твае сяброўкі з пакою ў інтэрнаце. Магчыма, што яны старэйшыя ад цябе, можа, абсалютна не звяртаюць на цябе ўвагі. Старэйшыя часта лічаць сябе вельмі разумнымі, хаця самі бываюць дрэннымі вучаніцамі, уцякаюць з урокаў, кураць папяросы, п'юць, выражаюцца вульгарнымі словамі, ходзяць з хуліганамі. Можа, такія твае сяброўкі? Тады не здзіўляюся, яны проста прымусілі цябе да свайго спосабу жыцця і паводзін, а ты не вытрымала.

Калі так ёсць сапраўды, дык як найхутчэй перабярыся з гэтага пакоя, калі ёсць магчымасць, а найлепш — да сяброўкі са свайго класа.

Маю і другое пытанне. Як рэагуюць на твае клопаты класныя сябры і сяброўкі? Я пераканалася, што часамі хлопцы лепшыя ад дзяўчат. Сама я вучуся ў жаночым класе і сцвярджаю, што няма горш, калі дзяўчаты з'яўляюцца добрымі вучаніцамі. Заўсёды задаюцца, хочуць быць важнымі, зайздросныя, калі горшы вучань атрымлівае лепшую ацэнку, не звяртаюць увагі; калі іх просяць слабейшыя дапамагчы ў навуцы. Часта, калі звяртаешся з просьбай, каб вытлумачылі незразумелае, выкручваюцца недахопам часу, а нават высмейваюць, лічачы, што даная тэма вельмі простая і зразумелая.

З другога боку, слабейшыя вучні ў такой сітуацыі за адзіную «дапамогу» лічаць бяздумнае перапісванне са сшытка лепшага вучня. Аднак ёсць вучні розныя і, напэўна, у тваёй школе знойдзеш такіх, якія сапраўды захочуць табе дапамагчы ў навуцы.

Старайся чытаць магчыма многа і, такім чынам, можа паправіш ацэнкі. А калі ўжо не хопіць табе сіл на навуку, не ламайся. Можа, пяройдзеш у нейкую іншую школу, напрыклад, прафесіянальную?»

*Дарагія сябры і сяброўкі!*

У вашы рукі пападае змест чарговага нашага форума. Наш форум разросся. Сочачы аднак за дыскусіяй у справе пісьма Галі, мы бачым пэўныя недахопы. Замала піша да нас хлопцаў. Чаму? Даходзяць да нас весткі, што аб пісьме Галі і іншых пісьмах дыскутавалі на пасяджэннях праўленняў некаторых арганізацый, але форум не атрымаў ад вас пісем.

Дык чакаем, прысылайце. Пішыце нам, як ваша арганізацыя, самаўпраўленне ці калектыў вырашае справы, падобныя да Галінай. Як вырашаеце справы, калі вашая сяброўка ці сябар выламваецца з калектыву, калі стараецца быць падлізай? Урэшце, што гэта, па-вашаму, «добры вучань, выдатнік». Чакаем вашых пісем.

## ЗБоВіД-аўцы з грамады Юшкаў Груд

У апошні час у гуртках і аддзелах ЗБоВіД адбываюцца справаздачна-выбарчыя сходы. У сувязі з гэтым звярнуліся мы да старшыні грамадскай арганізацыі ЗБоВіД у Юшкавым Грудзе (Беластоцкі павет) тав. Сцяпана Багнюка з просьбай, каб ён расказаў аб працы ЗБоВіД-аўскай арганізацыі ў сваім асяроддзі.

— Гурток ЗБоВіД-у ў грамадзе Юшкаў Груд заснаваўся ў пачатку мінулага года, — сказаў Сцяпан Багнюк. — Сваю дзейнасць пачалі мы ад выбараў праўлення. У склад праўлення я ўвайшоў як старшыня, Янка Бароўскі — маім намеснікам, а Міхась Хлябіч — сакратаром. Папрацавалі мы актыўна, і зараз наша арганізацыя налічвае больш 100 членаў.

Мы яшчэ далей шукаем былых удзельнікаў другой сусветнай вайны і стараемся перш за ўсё, каб удовы былі забяспечаны не толькі матэрыяльнымі сродкамі, але і бясплатным лячэннем, а таксама, каб у першую чаргу маглі атрымаць пуцёўку ў санаторый. У ГРН-е нашых членаў прымаюць па справе ў першую чаргу.

Падапечных удоваў налічваецца каля 10 асоб: Марыя Лаўрэшук і Марыя Кічкайла з Рыбакоў, Ольга Баршчэўская з Бандароў, Ольга Пучынская з Юшкавага Груда і іншыя.

Усе ЗБоВіД-аўцы з тэрыторыі нашай грамады прымаюць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы да святкаванняў дзяржаўных свят і знамянальных гадавін у вёсках. Варта адзначыць усё большую ідэйную кансалідацыю членаў ЗБоВіД-у, а таксама, як я ўжо сказаў спачатку, вялікі колькасны ўзрост нашых радоў. У сваёй працы мы будзем папулярызаваць сярод грамадства высакародныя ідэі і напрамкі, якія ставіць перад сабой ЗБоВіД.

Хочам наладзіць супрацоўніцтва з моладдзю, знаёміць яе з традыцыямі змаганняў нашага народа за вызваленне. Будзем і ў далейшым супрацоўнічаць са школамі ў галіне ідэйнай паставы і выхавання моладзі ў духу сацыялістычнага патрыятызму.

Мы здаволены тым, што моладзь мае да нас пашану і давер.

*Я. Ц.*

## КАБ ТАК УСЮДЫ

Па продажы мінеральных угнаенняў не знаходзімся на перадавым месцы. Маем шмат клопатаў. Але трэба сцвердзіць, што не ўсюды гэтая справа выглядае аж так кепска, як гэта прынялося меркаваць. Кінем вокам на Гайнаўскі павет, павет, у якім гаспадары ў сярэднім купляюць і высейваюць найменш мінеральных угнаенняў на адзін гектар.

У гайнаўскім ГС-е сустракаю Міхала Хмеля, арганізатара абслугі сельскай гаспадаркі. Паінфармаваўшы аб тым, што продаж мінеральных угнаенняў у ГС дзеліцца на тры перыяды (I — ад 1.VII. да 30.IX.. II — ад 1.X. да 31.III; III — ад 1.IV. да 30.VI), сцвердзіў ён, што першы перыяд куплі мінеральных угнаенняў выкананы тут у 91,6%.

— У другім перыядзе маем прадаць 1200 тон, і лічу, што не будзе большых цяжкасцей з гэтым. Лічымся з фактам, што пэўныя цяжкасці выступаюць з прычыны дрэннай пагоды. Многія нашыя гаспадары як вясною, так і восенню мінулага года не маглі ўлезці на падмоклыя палі, не загаспадарылі іх, а ў сувязі з тым і не высеялі ўгнаенняў. Такім чынам, у некаторых гаспадароў паўсталі запасы мінеральных угнаенняў.

Пацешыў неяк мяне арганізатар абслугі. Але ўспомніліся мне нараканні гаспадароў некаторых вёсак, што мусяць яны патраціць шмат часу, сілы і нерваў, каб выкупіць і прывезці гэтыя ўгнаенні дамоў. Як усе гэтыя справы маюцца ў гайнаўскім ГС-е? Што робіць кіраўніцтва, каб дапамагчы гаспадарам?

У гайнаўскім ГС-е робіцца многа. Адной з асноўных форм з'яўляецца супрацоўніцтва з сельгасгурткамі. Напрыклад, гаспадароў з тэрыторыі ГРН Чыжы забяспечваюць угнаеннямі сельгасгурткі, якія купляюць іх адразу вагонамі. У гэтым выпадку гаспадары маюць выпісаныя квіты і не мусяць таўчыся па чаргах у касах. Падобна справа маецца з угнаеннямі на кантрактаванае збожжа. У мінулым годзе 80% кантрактатараў атрымала квіты на месцы жыхарства. Аднак ГС у Гайнаўцы пашырае яшчэ адну форму продажу. Працаўнікі ГС-у едуць у даную вёску. Афармляюць з гаспадарамі ўсе фармальнасці, звязаныя з пакупкай угнаенняў. Потым дагаварваюцца з гаспадарамі, калі тыя маюць прыехаць па ўгнаенні. На дагавораны дзень 15—20 гаспадароў едуць на склад і калектыўна «варкуюць» тавар. ГС дае ім бясплатна транспарт на давязенне ўгнаенняў да месца жыхарства. Вельмі карысная форма.

Як вядома, кожны год бываюць перыяды, калі мінеральныя ўгнаенні прадаюцца танней, са скідкай. Вось некалькі лікаў, якія сведчаць аб тым, што гаспадары з раёна ГС Гайнаўка добра выкарыстоўваюць перыяды скідак. У месяцы ліпені і жніўні мінулага года гаспадары за такую самую колькасць угнаенняў заплацілі на 206 тыс. зл. менш. Скідка на ўгнаенні з прычын кантрактацыі ў ліпені, жніўні і верасні мінулага года склала 56 тысяч зл.

Адзінымі пажаданнямі як з боку гаспадароў, так і прадаўцоў, было б, магчыма хутчэй атрымаць нейкія прылады да насыпання ўгнаенняў у мяшкі, адпаведныя машыны да іх рассейвання. Гаспадары просяць таксама, каб мінеральныя ўгнаенні былі высокапрацэнтныя.

*А. Л.*

Сярод 16 грамадскіх камітэтаў ПАРП у Гайнаўскім павеце КГ у Кляшчэлях можа пахваліцца ў апошні час найбольшым ростам партыйнай арганізацыі. За мінулыя два гады было прынята там у рады членаў і кандыдатаў ПАРП 103 асобы. У чым сакрэт, што кляшчэлеўская партыйная арганізацыя ў разбудове сваіх радоў мае такія дасягненні? Справа ў тым, што кляшчэлеўскі КГ найбольш увагі звяртае ў сваёй дзейнасці на сельскагаспадарчыя праблемы.

Дзякуючы вялікай арганізатарскай ролі паасобных партыйных арганізацый, у некаторых вёсках поўнасцю выканаhelpны план куплі мінеральных угнаенняў. Грамада Кляшчэлі праграму ўгнойвання зямельных угоддзяў за гаспадарчы год 1969/70 выканала ў 104,5%, а за гаспадарчы год 1970/71 ужо ў 68%. Чатырох збожжавых культур на план 580 га закантрактавана 587 га. Грамада Кляшчэлі ў вырошчванні бульбы займае ў павеце перадавое месца. На 1 га




ў сярэднім выпадае больш як 250 тон бульбы, а гэта ўжо значна больш, чым сярэдні ўраджай павета. Бульба з гэтай мясцовасці высылаецца на экспарт. Кляшчэлеўская партыйная арганізацыя шмат папрацавала над тым, каб меліяраваць і загаспадарыць сенажаці. Меліяравана там 1705 га сенажацей і загаспадарана 1505 га. Зараз з гектара сяляне атрымліваюць каля 80 цэнтнераў сена. Ёсць чым карміць быдла, таму і яго колькасць значна павялічылася.

Добрая праца вясковых партыйных арганізацый, накіраваная на павелічэнне сельскагаспадарчай вытворчасці, спрыяе росту аўтарытэту ПОП. І таму найлепшыя людзі вёсак, найлепшыя гаспадары складаюць заявы аб прыняцці іх у партыю. Не так даўно ўтвораны ПОП у двух вёсках — Грузцы і Дабрыводзе, а ў вёсачках Рэпчыцы і Пятроўшчына таксама ўжо ёсць па некалькі членаў ПАРП.

Перад партыйнай арганізацыяй грамады яшчэ шмат спраў. Павінна яна далей імкнуцца, каб больш было збожжа і мяса, каб лепш жылося гаспадарам. А вось некаторыя праблемы, якія стаяць у цэнтры ўвагі кляшчэлеўскай партыйнай арганізацыі. 1) Занядбаныя эканамічна гаспадаркі ў грамадзе займаюць 1500 га і іх зямельныя ўгоддзі належна не выкарыстоўваюцца. Гэтыя гаспадаркі не маюць таксама адпаведных будынкаў для развіцця жывёлагадоўлі. 2) Некаторыя вёскі маюць незагаспадараныя супольныя пашы, а гэта мае адмоўны ўплыў на малочнасць кароў. 3) Іншай галіной працы партыйнай арганізацыі з'яўляецца дапамога ў арганізаванні культурнага жыцця моладзі, арганізаванне культурных цэнтраў у вёсках, затармазіла б гэта цягу моладзі да горада. Ёсць шмат іншых істотных спраў, якія будуць вырашаць члены партыі для таго, каб палепшыць умовы працы і жыцця сялян, каб узняць на вышэйшы ўзровень сельскагаспадарчую культуру.

(мх)

 

Пачатак на стар. 1

## Валя Андрэюк і яе ідэі

— праводзіў аднойчы індывідуальныя размовы з намі. Я яму расказала, што працую ў беларускім асяроддзі, што ставім тут п'есы па-беларуску. Каб бачылі вы, як ён зацікавіўся гэтым! Сказаў, што нікуды так не хацеў бы паехаць, як да нас.

— А іменна, што думаеце вы пра тэатры паэзіі ці паэтычныя эстрады на беларускай мове?

— Ані мова, ані праблематыка гэтаму не перашкаджае. Тэатр ці эстраду можна рабіць на кожнай мове. Трэба толькі ўмець шукаць і падрыхтоўваць матэрыял. Ад новага года я перайшла на работу ў бельскі ПДК, як тэатральны інструктар, але раней, працуючы ў рыбалаўскай бібліятэцы, я многа давучвалася і мове беларускай, і беларускай літаратуры. Калі мы ў Рыбалах пяройдзем на тэатр паэзіі, то ў далейшым застанемся пры беларускай мове.

— Але як жа цяпер вы будзеце з рыбалаўскім калектывам працаваць, калі вы ў Бельску?

— Буду даязджаць. О не, я не думаю пакідаць гэтага калектыву. Замнога мы ўлажылі сюды працы.

— Вы цяпер, як павятовы інструктар, абавязаны думаць катэгорыямі ўсяго павета, а як дзеяч БГКТ сваю ідэю аднаўлення мастацкага руху павінны пашырыць на ўсё ваяводства. Ведаеце, як вельмі патрэбны спецыялісты.

— Калі я параўноўваю ступень мастацкага аматарскага руху на Пабярэжжы і ў нас, то ведаеце, там ён вельмі высокі, а нас чакае вялікая праца.

— Ці трэба беларускаму аматарскаму руху парваць з традыцыяй...

— Так, трэба, з традыцыяй «Мікітавага лапця». Я сама спрабавала гэта рабіць. Адаптавала п'есы часта вялікія і нялёгкія для нашага аматарскага калектыву.

— А густы гледачоў? Як вы іх ацэньваеце?

— Гледачы прызвычаіліся да «Мікітавага лапця». Нам трэба многа папрацаваць, каб людзям выбіць з галавы лапці. Адразу рэвалюцыі не зробім, але будзем яе рабіць. Мікітавыя лапці і пярэстыя красулі замоцна заседзеліся ў нашых вёсках. Узровень нашага мастацкага аматарскага культурнага руху не найлепшы. У ім, напрыклад, зусім не відаць патрэбы рэжысерыі, сцэнаграфіі, адпаведных убораў, усіх тых элементаў, без якіх у цяперашні час нельга рушыць наперад. А вельмі прыдатнымі тут могуць быць старынныя народныя ўборы.

— А вось, нават у тэатральным руху не не можам гаварыць пра...

— Фальклор.

— І ваша думка пра яго?

— Сумна, што занікае ён. Нават старыя людзі на вяселлях зацягаюць усё часцей «Казачка» ў новым выданні, а забываюць пра «Каліну-маліну». Я не спецыялізуюся па фальклору, але ведаю, яго прыдатнасць для аматарскага руху можа быць велізарная. Вазьміце, напрыклад, абрад Купалы. Гэта ж не толькі беларускі абрад, але шырэй — славянскі. Яго можна зрабіць у пленеры. У нас тут, у Рыбалах, ёсць такі выган, лесам абсаджаны. Але... гэта мары.

— Чаму?

— Ёсць аб'ектыўныя цяжкасці.

— Якія?

— Сабраць трэба матэрыял і апрацаваць сцэнарый, патрэбен тут спецыяліст. Ведаю, што ёсць цікавыя апісанні купальскіх абрадаў у польскай літаратуры. Бачу магчымасць іх выкарыстання і ўключэння ў такі сцэнарый «Купалы». Ці трэба перакладаць польскія тэксты на беларускую мову?... — Страцілі б яны клімат. А чаму б не даць двухмоўных тэкстаў — характэрыстычная ж рэч для нашай рэчаіснасці. Зрабіць можна, адным словам, з Купалы манументальнае непаўторнае народнае відовішча! Бачыце, як можна марыць?..

*Запісала размову ВЕРА ЛЕЎЧУК*

*Фота Цаф — Сянько*

Пачатак на стар. 1

## ПАЛІТЫЧНА—ВЫХАВАЎЧАЯ ПРАЦА Ў БЕЛЬСКІМ АДДЗЕЛЕ

Я. Зенюка, кіраўніка аддзела культуры ПРН А. Куны, візітатара кураторыі С. Кэнскі, кіраўніка грамадскага аддзела УСВ М. Куца, сакратара Нацыянальнай камісіі ВК ПАРП С. Зелінскага і старшыні гэтай камісіі З. Дамброўскага.

Падсумоўваючы дыскусію, старшыня нацыянальнай камісіі не толькі адзначыў, што напрамкі дзейнасці аддзела былі правільныя, але і падкрэсліў добрую падрыхтоўку праўленнем аддзела самой сустрэчы. Матэрыялы, падрыхтаваныя ім, далі членам камісіі поўную арыентацыю ў працы аддзела. (рл)

## ЦАНА НА ЯЧМЕНЬ

Як паведаміў нам кіраўнік аддзела скупкі Прэзідыума ВРН у Беластоку, згодна з пастановай Рады Міністраў *устанаўляецца новая павышаная цана скупкі на ячмень.* Пачаўшы ад 1 ліпеня 1971 года, усе дзяржаўныя пункты скупкі будуць плаціць:

— за кантрактаваны ячмень — па 340 зл. за цэнтнер і дадаткова яшчэ па 36—56 злотых ад цэнтнера за добрую ачыстку зерня;

— за ячмень, залічаны ў фонд абавязковых паставак, — па 250 зл. за цэнтнер і таксама дадаткова яшчэ па 36—56 зл. ад цэнтнера за добрую ачыстку;

— за ячмень са свабоднай скупкі дзяржава плаціць будзе таксама па 340 зл., аднак без дадатковай даплаты за ачыстку.

Варта ўжо цяпер ведаць пра гэта і загадзя падрыхтаваць поле пад ячмень. (вр)

## ШАФЁР, ДАПАМАЖЫ ДЗІЦЯЦІ!

Кожную раніцу тысячы вясковых дзяцей спяшаюць у школу. Многія з іх — гэта малышы, якім прайсці некалькі кіламетраў у школу часам не пад сілу. Дык звяртаемся да шафёраў, дапамажыце гэтым дзецям, падвязіце іх у напрамку школы ці са школы.

Для ўсіх тых, хто будзе дбаць пра дзяцей, аб'яўлены конкурс, а яго ўдзельнікаў чакаюць атракцыйныя ўзнагароды.

У цякучым годзе ваяводскі штаб акцыі «Шафёр, дапамажы дзіцяці» створаны пры Ваяводскім праўленні ЗМВ у Беластоку, а павятовыя — пры павятовых праўленнях.

Аддзелы камунікацыі павятовых рад




Каб сустрэцца з сакратаром грамадскага камітэта ПАРП у Семяноўцы (Гайнаўскі павет) тав. Грышам Аніськевічам, пазваніў я па тэлефоне на вартоўню службы аховы чыгункі (СОК) на станцыю Семяноўка. Ён там камендантам.

Сустрэліся мы ўтраіх: тав. Аніськевіч, аграном з ГРН Семяноўка Міхась Харкевіч і я — у пакоі каменданта СОК.

Размову пачалі мы ад таго, чым займаўся КГ партыі ў мінулай кадэнцыі.

— Наш КГ займаўся ў першую чаргу сельскагаспадарчымі справамі, такі напрамак дзейнасці нашай грамады, — пачаў расказваць тав. Аніськевіч. — І тут трэба сцвердзіць адмоўны факт у галіне жывёлагадоўлі ў нашай грамадзе. Колькасць быдла і свіней у нас змяншаецца. Прычыны гэтага бываюць розныя. Многія жыхары грамады знайшлі сабе падзаробак на міжнародным перагрузачным пункце і занядбалі гаспадаркі. Зніжаецца пагалоўе быдла і з-за стыхійнага няшчасця ў мінулым годзе і ў сувязі з тым з неўраджаямі. У апошнія гады выступала з берагоў рака Нарва і залівала надрэчныя лугі і сенажаці. Не маем у грамадзе добрых племянных бугаёў, таму ёсць значная колькасць яловых кароў. Не найлепш маецца справа з ветэрынарнай апекай. Нараўскі, даволі далёкі ад Семяноўкі ветэрынарны пункт, абслугоўвае тут вялікія грамады: Нараўскую, Семяноўскую і Ляўкоўскую. Таму не ў сілах ён справіцца з усім. Сяляне нашай грамады замала робяць падсевак і паплёнаў. У грамадзе ёсць 85 сіласаў, з якіх толькі т р ы выкарыстоўваюцца паводле прызначэння. Мы ведаем недахопы, якія зрабілі ўплыў на змяншэнне колькасці пагалоўя быдла, і таму перш за ўсё будзем рабіць найбольш намаганняў, каб пашырыць жывёлагадоўлю.

— Усё яшчэ маем малыя накосы сена: з першага пакосу атрымліваем толькі 60 цэнтнераў сена з 1 гектара, — уключаецца ў размову Міхась Харкевіч. — Многія сяляне высяваюць на сенажаці мінеральныя ўгнаенні, таму што часта выступае з берагоў рака. Не ўсе сяляне хочуць скарыстаць з баніфіката на штучныя ўгнаенні. Многія з іх купляюць угнаенні тады, калі ўжо трэба іх падсейваць. Не ўсе ўгнаенні можна тады дастаць. У сярэднім сяляне нашай грамады збіраюць да 15 цэнтнераў з 1 га збожжавых культур і 150 цэнтнераў з 1 га бульбы. Добра, што зараз маем на месцы камісовы пункт продажу мінеральных угнаенняў. Аднак не выконваем мы грамадскага плану куплі ўгнаенняў, які складае 120 тон НПК. Найлепш выконваюць свае планы ўгнаенняў жыхары Лукі, Слабодкі і Пасек.

— Добра працуе наш семяноўскі сельскагаспадарчы гурток, — зазначае тав. Г. Аніськевіч. — Карыстаецца ён 6 трактарамі і такой жа колькасцю падвесных машын. У мінулым годзе трактарысты працавалі 6720 гадзін. Вялікая ў гэтым заслуга дыспетчара Аляксандра Шыманюка.

— Маем на сваім конце і адно цікавае мерапрыемства, — прадаўжае расказ тав. Аніськевіч. — У Луцэ ўвялі мы калектыўны сеў паплёнаў і падсевак.

— Як справы культуры? З гэтым справа выглядае так: клубы ёсць у Семяноўцы і ў Луцэ. Намагаецца адкрыць у сябе клуб моладзь з Тарнопаля. Там сапраўды маладыя не маюць дзе збірацца і праводзіць свой вольны час. У Семяноўцы думаем перабудаваць грамадскую святліцу так, каб дадаткова стварыць умовы да шырэйшай дзейнасці грамадскай бібліятэкі, якая дагэтуль знаходзіцца ў школе.

— Рэалізацыя грамадскіх чынаў? Выканалі мы іх на суму 490 тысяч за мінулыя 2,5 гады. Найбольш папрацавалі мы пры пабудове дарог і пры пасадцы паабапал іх дрэўцаў, пры пабудове павеці на супрацьпажарнае абсталяванне, пры закладцы хаднікоў і г.д. Пабудавалі мы дарогі Семяноўка—Ляўкова і Семяноўка—станцыя Нараўка праз Лесну. Жыхары Лукі дадаткова грамадскім чынам абсадзілі меліярацыйныя равы на 8-кіламетровым адрэзку. Вартасць гэтага чыну складае суму 65 тысяч злотых. У Семяноўцы ўлажылі мы кравэнжнікі, а на весну паложым тратуарныя пліты і трыліну. Яшчэ дадам, што КГ у бягучай кадэнцыі сканцэнтраваў увагу на разбудове радоў членаў ПАРП, на супрацоўніцтве ўсіх ПОП з вясковымі арганізацыямі, на сельскагаспадарчых і культурных справах і г.д.

*Я. Цялушэцкі*

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# ЛІТАРАТУРА КІЕЎСКАЙ РУСІ

ВОІНСКАЯ ЛІТАРАТУРА. Воінская і ваенная праблематыка займае пачэснае месца ў летапісах. З часам аднак выдзелілася яна ў асобны жанр — воінскую повесць. Найцікавейшымі помнікамі гэтай літаратуры з'яўляецца славутае «Слова аб палку Ігаравым» і пазнейшая «Задоншчына». Зоймемся тут толькі «Словам», якое займае выключную пазіцыю ў літаратуры Кіеўскай Русі. «Слова», як драгацэнная брошка, блішчыць на суровай вопратцы манашаскай літаратуры гэтага перыяду.

Вымушаны мы аднак пачаць ад сумненняў. Да сёння няма згоды паміж гісторыкамі адносна таго, ці «Слова» з'яўляецца арыгінальным помнікам старажытнасці, ці толькі спрытным фальсіфікатам з XVII ст. Вучоныя свету падзелены на два лагеры. Адны з іх адстойваюць погляд аб арыгінальнасці «Слова», другія выказваюць і бароняць думку супрацьстаўную. Таксама ў асяроддзі савецкіх вучоных няма аднадумнасці. Некалькі гадоў таму назад савецкі даследчык Зімін выказаў думку, што «Слова» было напісана ў XVII стагоддзі і што толькі атмасфера, звязаная з культам асобы, не дазваляла праводзіць аб'ектыўнага і навуковага аналізу твора.

Доказ Зіміна не зусім пераканаўчы, хаця б таму, што многія вучоныя заходніх краін, не абмежаваныя «культам», выступаюць у абарону старажытнасці «Слова». Адкуль усе гэтыя спрэчкі? Чаму нельга акрэсліць перыяд, у які паўстаў гэты твор? Прычыны простыя. Адзіны знойдзены экземпляр «Слова» не захаваўся. Быў ён знойдзены сярод рукапісаў Спаса-Яраслаўскага манастыра ў канцы XVIII ст. аматарам старыны графам А. Мусіным-Пушкіным. З тэксту «Слова» была зроблена па загаду царыцы Кацярыны II копія. Арыгінал «Слова» загінуў у часе вялікага пажару Масквы ў 1812 годзе. Сённяшнія вучоныя карыстаюцца толькі копіяй, у якой, як гавораць некаторыя даследчыкі, быць можа ёсць пэўныя памылкі, недасканаласці і адступленні ад арыгінальнага тэксту.

Некаторыя з сучасных даследчыкаў выказваюць думку, што знойдзены Мусіным-Пушкіным экземпляр «Слова» быў сапраўды тэкстам XVI або XVII ст., але быў ён толькі копіяй арыгінала, напісанага ў XII ст.

Няма сумненняў, што спрэчкі вучоных вакол «Слова» будуць прадаўжацца. Не маем аднак часу чакаць іх вынікаў. Прымаем думку, што «Слова» — твор старажытны і таму адносім яго да літаратуры Кіеўскага перыяду.

У чым галоўная каштоўнасць «Слова»? У яго паэтыцы, у стылістыцы, у вобразнасці, у пышнасці метафорыкі, у дасканалай іншасказальнасці. Словам, у форме твора, якая рашуча перарастае ўсё тое, што бачылі мы ва ўсёй літаратуры Кіеўскай Русі.

Змест «Слова» звязаны з гістарычным фактам — паходам рускіх князёў на полаўцаў у 1185 годзе. Полаўцы — ваяўнічыя паўднёвыя плямёны — нападалі на рускія землі і спусташалі іх. Рускія князі не раз арганізавалі пераможныя паходы на полаўцаў. У палавецкія станы хадзілі князі кіеўскія і паўночныя. Біў полаўцаў таксама і Наўгародска-Сіверскі князь Ігар.

Прадстаўлены ў «Слове» паход Ігара супраць полаўцаў меў характар паходa «сямейнага». Разам з князем Ігарам ішлі на полаўцаў яго сын Уладзімір Пуціўльскі, брат Усевалад Трубачэўскі і сваяк Светаслаў Рыльскі. Мэта похода была простая. Хацелі князі пагуляць па палавецкіх станах, адцясніць іх на поўдзень, узяць добрую дабычу, здабыць славу. Не заўсёды аднак мары ажыццяўляюцца. Паход Ігара кончыўся поўным разгромам рускага войска. «Слова аб палку Ігаравым» з'яўляецца гераічным плачам над гэтым няўдачным паходам.

Змест «Слова» прадстаўляе падрыхтоўку рускіх князёў да паходу, першую фазу паходу, першае, пераможнае для Ігара сутыкненне з полаўцамі, другую бітву з полаўцамі, закончаную поўным разгромам Ігаравых войск, прабыванне Ігара ў палавецкім палоне, пабег Ігара з палону. Да гэтай, асноўнай тэматычнай магістралі твора далучаюцца дыгрэсіі. Сярод іх плач жонкі Ігара, Яраслаўны, паказ кіеўскага князя Святаслава, роздум аўтара над лёсам рускай зямлі.

Паход Ігара, побыт князя ў палавецкім палоне і пабег яго з палону паказаны ў «Слове» з надзвычайнай маляўнічасцю і мастацкасцю. Аўтар валодае шырокай шкалой параўнанняў і эпітэтаў. Бітву параўноўвае ён або з вясенняй урачыстасцю, або з сяўбой, або з малацьбой.

Цікавая і ўсебаковая ў «Слове» характарыстыка князёў, якіх у паэтычным узлёце супастаўляе аўтар з сокаламі або сонцам. Галоўную ўвагу канцэнтруе аўтар на князю Ігару і яго браце Усеваладзе. Хваліць іх гераізм і адданасць справе. Асуджае аднак самаўпэўненасць князёў, якая сталася прычынай іх разгрому. Час ад часу аўтар адрываецца ад паходa і яго герояў, каб паказаць кіеўскага князя Святаслава, які хаця і не прымае непасрэднага ўдзелу ў паходзе, то ўсё ж такі сочыць за ім і непакоіцца аб лёсе яго ўдзельнікаў. Святаславаў сон аб сінім віне дворская знаць тлумачыць як прароцтва аб няўдачы Ігара. Святаслаў спачувае Ігару і звяртаецца да князёў з заклікам адпомсціць полаўцам «за зямлю рускую, за раны Ігаравы».

Адным з найбольш характэрных мастацкіх прыёмаў «Слова» з'яўляецца шырокае выкарыстанне прыроды. Прыродныя элементы ў літаратуры Кіеўскай Русі адыгрывалі нязначную ролю. Праўда, паяўляліся яны ў прапаведніцкай літаратуры, але іх абсяг быў



 

і аддзелы праўленняў ТПД маюць наклейкі для тых шафёраў, якія прымуць удзел у акцыі, а якія трэба наклеіць на шыбах сваіх машын.

Дзеці павінны мець купоны (картачкі), якія трэба выканаць самім з напісам «Dziękuję ci, kierowco» або «Dziecko dziękuje kierowcy». На купоне павінна быць пячаць школы, у якую ходзіць дзіця. Кожны шафёр павінен гэтыя купоны перадаць у адпаведны павятовы аддзел камунікацыі, падаючы адначасова сваё імя і прозвішча, адрас, месца працы і колькасць купонаў.

У конкурсе могуць прымаць удзел таксама вазакі, якія купоны перасылаюць у аддзелы камунікацыі адпаведных павятовых рад.

Адначасова звяртаемся з заклікам да ўсіх настаўнікаў і кіраўнікоў школ: прыпомніце дзецям аб выкананні купонаў і пастаўце на іх пячаткі школы.

Лічым на сардэчнасць у адносінах да акцыі з боку ўсіх зацікаўленых. (ак)

# ЛЯСНОЕ „ЖНІВО“

Зіма — гэта, між іншым, пара, калі ідзе інтэнсіўная вырубка лесу. Наш фотарэпарцёр трапіў на такую вырубку лесу ў Ляцкай пушчы.

На здымку бачым мы лясных рабочых надлясніцтва Крыніца ў Гайнаўскім павеце.





*Янка Хаманюк і Уладзімір Паскробка расколваюць ствалы метровай даўжыні.*



*Дрэвы спілоўваюцца найчасцей механічнай пілою. На здымку: лесапільшчык Янка Семянюк — Мураўскі за працай.*



*Дрэва, так званыя «клёцы», звозяць на складніцу найчасцей коньмі, запрэжанымі ў санкі, паколькі па звілістых лясных дарожках не заўсёды можна даехаць трактарам.*

*Тэкст і фота: Янка Цялушэцкі*

параўнаўча вузкі. Гэтая абыякавасць старажытнай рускай літаратуры на прыроду зразумелая. Што маглі сказаць аб прыродзе аўтары-кніжнікі, якія найчасцей былі манахамі і ўсё жыццё праводзілі ў манастырскіх сценах? Аўтар «Слова» адступіў ад іх стылю. У яго творы прырода іграе першую скрыпку. Цяжка паверыць, каб мог ён быць манахам. У «Слове» нямала элементаў язычаскай міфалогіі, многа ў ім жывой прыроды, дынамікі, руху, воінскай стыхійнасці. Быць можа, што аўтар быў Ігаравым воінам і цэлыя гады праводзіў у полі. Гэтага не ведаем, але ведаем, што быў напэўна чалавекам з вялікім паэтычным дараваннем.

Вернемся да прыроды. Для аўтара прырода — не нямы сведак, але актыўны ўдзельнік падзей. Прыём ажыўлення прыроды, яе адухаўлення прымяняе аўтар у «Слове» вельмі часта. І так, у момант падыходу войска Ігара да ракі Данец наступае зацьменне сонца, якое прадвяшчае няўдачу. Ваўкі і груганы, якія спадарожнічаюць рускім воінам, таксама з'яўляюцца вешчунамі краху. Наогул прырода ў час паходу Ігара настаўлена да рускіх адмоўна. Зусім падругому адносіцца яна да князя падчас яго пабегу з палону. Дзятлы стукам у дрэвы паказваюць Ігару дарогу да ракі, травы заглушаюць удары конскіх капытаў у зямлю, каб змыліць пагоню, хвалі Данца пяшчотна калышуць цела Ігара.

Аўтар «Слова» выкарыстоўвае, такім чынам тыповыя для народнай творчасці прыёмы.

Мы ўжо гаварылі аб постаці Яраслаўны. Гэтая постаць з'яўляецца першым жаночым партрэтам у рускай літаратуры. Хтосьці можа спытаць, а Ефрасінія Полацкая? Аднак партрэт Ефрасініі мае характар помнікавы, драўляны, эскетычны, пазбаўлены жыццёвай верагоднасці. Якраз у тым і праяўляецца новум жаночага партрэта ў «Слове», што напоўнены ён жывой жаночай эмацыянальнасцю. Так, Яраслаўна — гэта закаханая жанчына; верная, адданая мужу жонка, з вялікім сумам у сэрцы і са шчырай слязой на вачах. Плач Яраслаўны на гарадской сцяне годны кісці найвыдатнейшых мастакоў.

Варта адзначыць і тое, што ў стылістыцы «Слова» нямала слоў, тыповых для беларускіх зямель. Такія словы, як шызы, смага, аксаміты, кажухы, велькі палон, вежа, прычыніліся да паўстання гіпатэзы аб тым, што «Слова» ўзнікла на беларускіх землях.

Канчаючы, хочацца падкрэсліць, што «Словам» цікавіліся не толькі гісторыкі, але таксама палітыкі і пісьменнікі. Між іншым, цікавіўся «Словам» Маркс, які ўспрыняў гэты твор як заклік да яднання ўсіх рускіх князёў уабліччы татарскага нашэсця.

Многія рускія і ўкраінскія пісьменнікі перакладалі «Слова» на сучасную рускую і ўкраінскую мовы.

Паэтычны пераклад «Слова» на беларускую мову быў зроблены Я. Купалам у 1921 г.

Няма сумненняў, што яшчэ на працягу многіх стагоддзяў гісторыкі, літаратуразнаўцы, пісьменнікі, мастакі будуць шукаць у «Слове аб палку Ігаравым» творчай інспірацыі і натхнення.

Адрэж па лініі, назначанай пунктірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і нанізвай старонкі на дроцік або шнурочак.

БІБЛІЯТЭЧКА "НІВЫ" ◦ ЯНКА МАУР ◦ ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ



А яшчэ разбіраць мядзведзя, перанесці і ўпарадкаваць мяса. Апрача таго, трэба ж будзе за ўвесь гэты час і падсілкавацца.

— Адным словам, — скончыў свае падлікі Мірон, — сёння ўсё зрабіць мы не паспеем, не кажучы ўжо аб тым, што наш агонь за гэты час можа загінуць.

Праз некалькі хвілін два хлопцы валаклі па лесе мядзведзя. Адзін трымаў яго за правую пярэднюю лапу, другі — за левую, а мядзведзь ехаў па зямлі на спіне мордай наперад. Хоць і невялікі быў звер, але для галодных і аслабленых хлопцаў ён быў значным грузам.

— Колькі мы тут валачэм непатрэбнага цяжару, які добрыя людзі пакінулі б на месцы! — скардзіліся хлопцы.

У гэты дзень яны паспелі толькі набраць каменняў ды наладзіць іх «апрацоўку». У лесе пачулася лясканне, нібы хто брукаваў вуліцу. Праз некаторы час хлопцы ўжо мелі «нажы» і «сякеры» каменнага веку. Але ж якія гэта былі прылады! Хлопцы глядзелі на іх і казалі:

— Першабытны чалавек засмяяў бы нас, каб убачыў такія прылады.

— І ў музеі такіх не знойдзеш.

— Але мы не вінаваты, што крэменю няма.

— Мусіць, і з крэменю мы не здолелі б зрабіць так, як яны.

— А ўсё-такі ямчэй будзе, чым зубамі!

На другі дзень раненька ўзяліся за працу. Дапамагчы каменныя прылады дапамаглі, але толькі з удзелам сухога вострага кораня ды ўсялякіх іншых прыстасаванняў. У выніку атрымалі столькі мяса, што не ведалі, куды яго дзець.

— Што рабіць? — у роспачы казаў Мірон. — Без солі яно і тры дні не пратрымаецца.

— Тады трэба наесціся на запас, — не то сур'ёзна, не то жартам сказаў Віктар.

І сапраўды, яны так пад'елі, што ўвесь дзень і глядзець не хацелі на мяса.

— Зноў мы зрабілі памылку! — сказаў Мірон. — Нам трэба было напаследак гэтак наесціся. Тады і добра было б, што не хочацца есці. А цяпер свежае мяса дарма гіне.

— Давай тады акурым яго, — запрапанаваў Віктар.

— І то праўда! — суцешыўся Мірон. — Хоць без солі і ўсё роўна доўга не будзе трымацца, але напэўна даўжэй, чымся так.

Змайстравалі з жэрдак козлы, скруцілі з лыка вяроўкі і павесілі шынкі.

— За адзін заход павесім і свае гаршкі, — сказаў Мірон, — мусіць, яны падсохлі ўжо.

Гаршкі ляжалі ў ямцы, выкапанай у пяску пад коранем дрэва. У цяньку яны падсохлі досыць добра і не мелі аніводнай шчарбіны. Прыладзілі і іх, але вышэй, чым мяса, каб да іх даходзіў толькі лёгкі дух.

— Рызыкоўная справа з гэтым чарап'ём, — мармытаў Мірон. — Трэсне — і ўсё прапала.



су яна тут жыве. Але ўсё-такі лягчэй будзе беднаму дрэву.

Дома ім сапсавала настрой дымарня. Ім здавалася, што шынкі пачнуць падсыхаць і набываць такі выгляд, у якім звычайна ўсе мы прывыклі іх бачыць, а тым часам адбывалася нібы наадварот: яны рабіліся больш мяккімі, разлезлымі, і, здавалася, псаваліся хутчэй, як без акурвання.

— Відаць, нічога не выйдзе, — журыўся Мірон. — Іх трэба і саліць, і сушыць доўга, а потым ужо акурваць. Апрача таго, вецер адносіць дым. Выходзіць, што мы самі толькі псуем іх. Лепш ужо спячы — даўжэй захаваюцца.

— І высушыць, — дадаў Віктар.

Знялі мяса і ўзяліся за новую справу. Адразу выявілася, што сушыць нельга, бо не было чым парэзаць на тонкія лусты. Пачалі кавалкамі пячы. Да ночы ў шалашы было ўжо шмат печаных кавалкаў.

Мірон надумаўся нават да рацыяналізацыі. Таму што солі, якая ў іх была, не хапала, каб пасаліць мяса, ён засаліў крыху вады і памачыў у ёй кавалкі мяса.

— Гэта пойдзе ў лік пайка, — звярнуўся ён да Віктара. — Дадаваць да такога кавалка яшчэ солі ты не будзеш мець права.

— Я і не думаю, абы толькі захаваць на лішні дзень.

— Але ў адну кучу іх усе класці нельга, каб не загніліся, — прамовіў Мірон і азірнуўся навокал.

— Тады паложым іх у хлеў, — сказаў Віктар. — Пакуль што ён у нас пусты.

Там на сухіх галінках і расклалі кавалкі паасобку. Гаршкі пакінулі сушыцца над агнём.

— Мы ж забыліся пра нашых пчол, — сказаў Віктар, калі яны палеглі ўжо спаць.

— Туды пойдзем заўтра раніцою, — адказаў Мірон.

Назаўтра ўзялі з сабой адзін з гаршкоў, палажылі туды вугольчыкаў і пайшлі па мёд. Пад дрэвам расклалі агонь. Але як выкурыць пчол там, наверсе?

— Я палезу туды, а ты мне падасі тычку запаленага моху, — прапанаваў Віктар.

— Каб знайсці добрую жэрдку, дык лепш было б з зямлі прасунуць, — сказаў Мірон. — Спакайней, ды і табе не прыйшлося б цярпець.

Вышыня была такая, што адпаведную жэрдку можна было знайсці. Знайшлі добрую арэшыну, запалілі камяк моху і прасунулі ў дзірку. Як загуло там! Хлопцы зараз жа адбегліся, але зноў падысці не маглі: раз'юшаныя пчолы лёталі навокал і, відаць, зусім не думалі адлятаць. Нарэшце, хлопцы вымушаны былі пакінуць іх, каб прыйсці ў другі раз. Перад адыходам Мірон яшчэ запхнуў камяк, хоць і пацярпеў за гэта: два гузакі ўсхапіліся на твары.

Пакінулі гаршчок каля дрэва, а самі пайшлі на сваё абследаванне. Зноў пачалася такая ж пакутная і бескарысная праца. Гадзіны чатыры яны бадзяліся каля балота і вярнуліся без нічога, як заўсёды. Па дарозе яшчэ раз наведалі пчол. На гэты раз там было ўжо ціха. Толькі дзе-нідзе жаласна звінела адзінокая пчала.

74.

Стаянка прыняла зусім гаспадарчы выгляд. На дрэве вісела скура мядзведзя, на жэрдках акурваліся шынкі, каля вогнішча і будана ўвіхаліся жыхары.

— Акурат як у людзей! — радасна казалі хлопцы.

Падвечар усё ж такі яшчэ пад'елі мяса і паляглі спаць у самым добрым настроі.

XVII

**Зноў дарэмная спроба. — Апрацоўка запасаў. — — Па мёд. — Гібель гаспадаркі. — Змаганне з роспаччу. — Звярыныя недаедкі.**

Цяпер ужо можна было пачынаць пошукі дарогі. Першы дзень яны бадай увесь і патрацілі на гэтую справу. След бандытаў паказаў, што праход быў недзе за суседнім востравам. Значыцца, адразу адпадала патрэба шукаць за гэтым. За першы ж дзень яны добра агледзелі трэцюю частку ўсяго берага, які ім належала абследаваць. У адным месцы яны прасунуліся досыць далёка, аднак далей усё роўна была такая дрыгва, што прайсці праз яе і думаць нельга было.

Але хлопцы і не спадзяваліся на хуткі поспех і вярнуліся дадому, задаволеныя ўжо тым, што частка задачы выканана. У дарозе яны выкарыстоўвалі кожны выпадак, каб скубануць чаго-небудзь расліннага: ці аеру, ці шчаўя, ці сыраежку, ці якую зялёненькую лісцінку.

— Дзіўная рэч, — казаў Віктар, — цяпер я ем кожную лісціну з большым смакам і ахвотай, як тады, калі два дні нічога не еў.

— Гэта таму, — растлумачыў Мірон, — што наш арганізм патрабуе змены стравы, патрабуе зеляніны ці наогул чаго-небудзь расліннага.

Паміж іншым, на галіне ліпы яны заўважылі нейкую цікавую расліну. Гэта быў нібы куст з доўгімі сцябламі, дробным светленькім лісцем і дробненькімі жоўценькімі кветкамі. Прыладзіўся ён на галіне стажком і, здаецца, з зямлёй ніякай сувязі не меў. Калі ўбачыў яго Мірон, то крыкнуў:

— Гані вон гэтага драпежніка! Гэта амела, шкодная расліна, таксама паўднёвы госць. Яна жыве выключна на чужым карку. Птушкі ласуюцца яе ягадамі, а потым чысцяць свой нос на галіне другога дрэва. Ліпкі сок прыклейваецца, і гэтага досыць, каб расліна пачала расці.

Віктар ахвотна здзёр і скінуў драпежніка.

— Але ж і ўчапілася! — заўважыў ён. — Мусіць, зноў пачне расці.

Пэўна, бо свае тонкія карэньчыкі яна запускае глыбока ў дрэва. Нават можна па глыбіні пазнаць, колькі ча-

76.

Насілу Віктар выцягнуў з дупла соты. Але здабыча была вельмі малая: усё чарва.

— Ды гэтага і чакаць трэба было, — сказаў Мірон. — Новага мёду не маглі яшчэ назбіраць. Засталіся толькі леташнія рэшткі.

— Дзякуй і за гэта. Шклянка добрая набярэцца, — сказаў Віктар, аблізваючы пальцы.

— Цяпер мы жывём! — разважаў Мірон, калі ішлі назад. — Калі ўзяць, напрыклад, ды змяшаць з мёдам ліпавае лісце, дык будзе такая страва, ад якой ніхто і дома не адмовіўся б. Пасля мяса гэта будзе вельмі дарэчы.

— Пачакай цешыцца, — усміхнуўся Віктар. — Можа, звар'яцееш яшчэ.

— Чаму так? — прыпыніўся Мірон.

— Забыўся? А можа, гэта мёд з той цудоўнай азаліі?

— Ну, ну. Столькі не набяруць.

— Калі не зусім, дык крыху ашалееш.

З гэткімі гутаркамі яны весела ішлі дадому і не думалі пра тое, што іх там магло чакаць.

А калі прыйшлі, то ўбачылі такую карціну, ад якой аж уваччу пацямнела: абгрызеныя косці, разбураны хлеў і сляды звяроў...

У Мірона ледзь гаршчок не валіўся з рук, а Віктар забегаў і закрычаў, нібы хто яго ўкусіў.

— Ах, праклятыя! Хто гэта? Як гэта здарылася?!

— Мы забыліся, што, апрача нас, у лесе яшчэ ёсць насельнікі: лісы, ваўкі, дзікі, — панура сказаў Мірон. — Вось хто-небудзь з іх і пакваліўся.

Віктар пачаў прыглядацца да слядоў.

— Ды тут іх шмат было! — сказаў ён. — Вось сляды нібы ваўка, вось — нібы кошкі. А тут вось яшчэ нейкі. Адкуль яны ўсе разам сабраліся?

— А навошта было ім збірацца ўсім разам. Спачатку хто-небудзь адзін прыйшоў, разбурыў, наеўся, а там маглі пачуць і падысці іншыя. Але нам ад гэтага не лепш.

— Што ж мы цяпер будзем рабіць? — схапіўся за галаву Віктар.

— Тое, што і да гэтага часу, — спакойна адказаў Мірон. — Трэба думаць, што не загінем, як і дагэтуль.

Спакойны тон Мірона крыху суцешыў і Віктара. Выбух роспачы сціхшыўся, а там яны ўзялі сябе ў рукі і сталі глядзець на справу цвяроза. Усё роўна назад не вернеш. Калі забыліся, дзе знаходзяцца, зрабілі памылку, дык трэба прыняць яе пад увагу і другі раз быць разумнейшымі.

— Вось ужо колькі памылак мы нарабілі, — разважаў Віктар, — кожны раз абяцаем быць разумнейшымі і ўсё аніяк не можам паразумнець.

Мірон нават засмяяўся.

— Ці ведаеш, што мы і так разумныя? — сказаў ён.

— Не відаць гэтага, — паківаў галавой Віктар.

— Добра відаць. Калі яшчэ не памерлі, значыцца, не дурныя. А калі пажывём у гэткіх умовах год, то я абяцаю табе, што памылак у нас амаль не будзе.

АСВЕТА ЗА МЯЖОЙ

# УЗОРНЫЯ, ЗДАВАЛЬНЯЮЧЫЯ...

Нядаўна мы пісалі аб статуце сярэдняй агульнаадукацыйнай школы ў СССР. Напамінаем, што гэты статут замест пяцібальнай сістэмы ўводзіць такія ацэнкі паводзін вучняў як: «узорныя», «здавальняючыя» і «нездавальняючыя».

Паколькі гэтая сістэма моцна адрозніваецца ад той, якая прымяняецца ў нашых школах, мы хочам больш падрабязна пазнаёміць з ёй нашых чытачоў. Цікавасць павінен выклікаць і той факт, што справа ацэнкі паводзін вучняў выклікае ў нас азартныя дыскусіі.

Інструкцыя аб выстаўленні ацэнкі паводзін вучняў сярэдняй агульнаадукацыйнай школы ў СССР гаворыць, што галоўнымі крытэрыямі ацэнкі паводзін з'яўляецца выкананне вучнем сваіх асноўных абавязкаў, сфармуліраваных у «Правілах для вучняў» (у нас — «Regulamin uczniowski»).

Статутам прадугледжаны дзве станоўчыя ацэнкі паводзін вучняў: «здавальняючыя» і «ўзорныя».

Ацэнка *«здавальняючыя»* выстаўляецца вучням, якія выконваюць асноўныя патрабаванні школы, вызначаныя «Правіламі для вучняў», прымаюць удзел у грамадскім жыцці школы і грамадска карыснай працы. Гэта ацэнка характарызуе паводзіны значнай часткі школьнікаў. Выстаўленне яе не павінна разглядацца як надзвычайная падзея.

Ацэнка *«ўзорныя»* выстаўляецца вучням, якія найбольш старанна вучацца і асабліва актыўна ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці класа і грамадска карыснай працы, узорна вядуць сябе ў школе, дома і на вуліцы, няўхільна выконваюць «Правілы для вучняў». Ацэнка «ўзорныя» павінна выстаўляцца толькі той частцы вучняў, паводзіны якіх могуць служыць прыкладам для іншых школьнікаў.

Ацэнка «нездавальняючыя» выстаўляецца вучням, якія сістэматычна не выконваюць сваіх асноўных абавязкаў, прадугледжаных «Правіламі для вучняў», не падпарадкоўваюцца патрабаванням школы, настаўнікаў, праяўляюць недысцыплінаванасць у школе, дома, у грамадскіх месцах. У асобных выпадках ацэнка «нездавальняючыя» можа быць выстаўлена і за зробленыя вучнем адзінкавыя антыграмадскія ўчынкі, якія маюць характар правапарушэнняў.

Гадавая нездавальняючая ацэнка па паводзінах навучэнцаў выстаўляецца толькі пасля адпаведнага рашэння педагагічнай рады школы. Навучэнцы выпускнога (X або XI) класа, якія маюць гадавую нездавальняючую ацэнку па паводзінах, не дапускаюцца да экзаменаў і атрымліваюць даведку аб тым, што яны праслухалі курс сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. Экзамен на атэстат (у нас — матура) аб сярэдняй адукацыі яны могуць здаваць у наступныя тры гады ва ўстаноўленым парадку пасля прадстаўлення станоўчай характарыстыкі з месца работы.

Вучні невыпускных класаў, якія атрымалі гадавую нездавальняючую ацэнку па паводзінах, пераводзяцца ў наступны клас умоўна. Пры паўторным атрыманні вучнем нездавальняючай ацэнкі па паводзінах, у выпадку сістэматычнага непадпарадкавання настаўнікам і кіраўнікам школы і грубых парушэнняў дысцыпліны, педагагічная рада разглядае пытанне аб выключэнні яго са школы. Навучэнцы 8-га класа, якія маюць па паводзінак ацэнку «нездавальняючыя», атрымліваюць пасведчанне з адпаведным запісам у радку аб ацэнцы паводзін. Рашэнне пытання аб залічэнні такіх вучняў у IX клас можа быць прынята толькі педагагічнай радай школы.

А. К.

КУТОК ГАСПАДЫНІ

# ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

ВАРАНАЯ КАПУСТА

Паколькі кіслай капусты не забракне цяпер у ніводнай сялянскай хаце, дык падаем сёння некалькі рэцэптаў на вараную капусту. Больш-менш вопытная гаспадыня скажа: «Пані, дай божа, каб быў заўсёды кавалак добрай свініны, а капуста напэўна ўдасца на славу!» І праўда. Аднак добрай, свежай свініны часамі можа не быць, а калі б нават была і штодзень, то і яна можа прыесціся. А капусту можна зварыць дасканалую і без яе. Вось некалькі прыкладаў.

*Вараная капуста з капчонай грудзінкай*

На паўкілаграма капусты трэба ўзяць 0,25 кг капчонай грудзінкі (бочку). З кіслай капусты выціснуць у місачку сок. Калі яна занадта кіслая, трэба яе яшчэ перапаласкаць халоднай вадой. Заліць капусту 1,5 літра вады, дадаць вяндзонку, невялікую цыбульку, соль, лаўровы лісток, пару зёран перцу, крыху цукру і варыць пад крышкай каля гадзіны. Пасля гэтага грудзінку выняць, нарэзаць кубікамі, палажыць на падсмажаную на шмальцы дробна нарэзаную цыбульку, крыху падсмажыць усё разам, пасыпаць мукой і трымаць на невялікім агні, пакуль мука не будзе мець залацістага колеру. Усё з патэльні ўлажыць у капусту, закіпяціць, зняць капусту з агню і ўліць сыры сок. Капуста была б яшчэ смачнейшая, калі б мы дадалі да яе 2—3 сушаныя грыбкі. Падаем капусту з варанай бульбай, палітай скваркамі і пасыпанай зялёнай пятрушкай.

*Кіслая капуста, тушаная з сырой каўбасой*

Капусты трэба ўзяць столькі ж, колькі і каўбасы. З капусты выціскаем рукамі сок, кладзем яе ў гарачую, пасоленую ваду (на 1 кг капусты — 1 літр вады), дадаем усе тыя прыправы, аб якіх мы пісалі ў папярэднім рэцэпце, ну, і сушаны грыбок. Варым каля гадзіны. Пасля гэтага дадаем нарэзаную порцыямі сырую каўбасу і варым яшчэ паўгадзіны. Муку падсмажваем на тлушчы і запраўляем ёю капусту. Адставіўшы з агню, уліваем сыры сок з капусты. Падаем з тоўчанай бульбай, пасыпанай зелянінай.

*Капуста па-гаспадарску*

Колькі бярэм капусты, столькі ж цыбулі, каўбасы, яблыкаў, варанай бульбы. З капусты выціскаем сок у міску, кладзем яе ў каструлю, дадаем тоненька нарэзаную цыбулю, нарэзаную скрылёчкамі каўбасу (зняць з яе перад гэтым скурку) і нарэзаныя яблыкі. Дадаем прыправы тыя, што і ў папярэдніх рэцэптах і тушым каля гадзіны. Калі капуста стане мяккая, дадаем нарэзаную скрылёчкамі вараную бульбу. Запраўляем капусту мукой, падсмажанай на тлушчы, кіпяцім, знімаем з агню і дадаем сыры сок.

*Гаспадыня*

В. БЕРАЖКОЎ

З ДЫПЛАМАТЫЧНАЙ ГІСТОРЫІ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ

# ТЭГЕРАНСКАЯ СУСТРЭЧА

СПРЭЧКА АБ ВАЕННЫХ ЗЛАЧЫНЦАХ

Я хачу расказаць цяпер аб адной неафіцыйнай сустрэчы, у час якой дайшло да сур'ёзнай сутычкі паміж савецкім і англійскім дэлегатам. Быў гэта супольны абед трох праваднікоў і іх найбліжэйшых супрацоўнікаў. Пачалося вельмі спакойна. Тостаў было многа — за здароўе ўдзельнікаў канферэнцыі, за поспех розных родаў войск, за перамогу над супольным ворагам, за пасляваеннае супрацоўніцтва. Былі таксама і больш канкрэтныя палітычныя тосты. Савецкі бок, між іншым, прапанаваў вось такі тост:

— За будучыя пастаўкі. Каб прыходзілі тэрмінова, не спазняючыся, як цяпер!

Пад канец абеду Сталін ўстаў і пачаў гаварыць аб гітлераўскіх ваенных злачынцах.

— Прапаную падняць тост за тое, — сказаў, — каб над усімі нямецкімі ваеннымі злачынцамі магчыма як найхутчэй адбыўся суд і каб усе яны былі сурова пакараны. Мы павінны, дзейнічаючы супольна, караць іх, як толькі трапяць у нашы рукі. Няхай ніводзін не пазбегне пакарання, няхай ніводзін не схаваецца нават на канцы свету. Думаю, што такіх гітлераўскіх злачынцаў знойдзецца нямала...

Ледзь пераклалі гэта на англійскую, як Чэрчыль, бы ўджалены, сарваўся з месца. Пасля кожнага тоста ён сумленна асушваў свой кілішак і быў ужо добра распалены. Гвалтоўным жэстам адсунуў кілішак, які перавярнуўся, а разліўшыся кан'як утварыў на абрусе вялікую жоўтую пляму. Але Чэрчыль, ледзь пануючы над сабою, нават гэтага не прыкмеціў. Яго твар і шыя пачырванелі, вочы наліліся крывёю. Махаючы рукамі, ён выкрыкваў:

— Гэтага роду погляды ў корані супярэчаць нашаму англійскаму пачуццю справядлівасці! Англічане ніколі не пацерпяць такога масавага пакарання. Я абсалютна перакананы, што ніводнага чалавека, ці будзе гэта нацыст, ці хто іншы, нельга ўсмерчваць без суда, нягледзячы на доказы, якія сведчаць супраць яго.

Усе паглядзелі на Сталіна, які спакойна рэагаваў на бурлівую прамову брытанскага прэм'ера. Здавалася нават, што смешыць яго нервовасць Чэрчыля.

Старшыня савецкай дэлегацыі пачаў флегматычна і грунтоўна збіваць аргументы Чэрчыля, чым давёў яго да яшчэ большай лютасці. Падкрэсліў ён, што ніхто не мае намеру без суда караць гітлераўскіх злачынцаў. Кожная справа павінна быць дакладна разгледжана. — Аднак ужо цяпер ясна, што ў масавых зверствах, якія чыняць гітлераўцы, удзельнічаюць дзесяткі тысяч злачынцаў, — кончыў Сталін, звяртаючыся да Рузвельта, які моўчкі назіраў гэту сцэну.

— Як заўсёды, — адказаў прэзідэнт, — я буду вымушаны, відаць, выступіць у ролі пасрэдніка. Поўнасцю з'яўляецца ясным, што трэба знайсці нейкі кампраміс паміж вашым становішчам, маршал Сталін, і становішчам майго добрага

# ТРЫБУНА чытачоў

## ВЫБАРЫ СОЛТЫСАЎ

Вёска Пянькі раскінута па хутарах. Адміністрацыйна дзеліцца яна на дзве часткі. Адна называецца Пянькі, а другая — Капцы. 23 студзеня ў мясцовай святліцы адбыўся сход, на якім жыхары Капцоў і Пянькоў выбралі солтысаў на наступную кадэнцыю. Солтысам у Капцах ізноў выбралі сяляне Ёзіка Астравецкага, які з'яўляецца найлепшым солтысам у ГРН Міхалова. Солтысам у Пяньках выбраны перадавы гаспадар вёскі Аляксандар Грэсь.

*К. Л. Пянькі*

## МАГІЛА САЛДАТА

Падчас другой сусветнай вайны ў ваколіцах вёскі Стары Корнін у Гайнаўскім павеце загінула многа савецкіх салдат. Пасля вайны ўсіх загінуўшых тут салдат адкапалі і забралі ў брацкія магілы. Аднак адна магіла засталася. Ёю апякуюцца гарцэры са Старога Корніна. З расказаў жыхара гэтай вёскі Цімафея Баравіка вынікае, што ён пахаваў тут салдата Анатоля Свідру. Добра было б, каб як-небудзь даведаліся сваякі або блізкія Анатоля Свідры, што пахаваны ён каля нашай вёскі.

*Васіль Сегень, Стары Корнін*

## ПРЫВІТАННІ

Працаўнікам Беларускага таварыства і рэдакцыі «Нівы» з нагоды 1971 года, юбілейнага года для Вашай арганізацыі, жадаю новых дасягненняў, жадаю, каб Вы яшчэ больш зацікавілі грамадскасць краіны беларускімі справамі. Жадаю таксама, каб павялічылася колькасць членаў і сімпатыкаў БГКТ і чытачоў «Нівы».

*Анатоль Моўчун, Познань*

## ДАЧАКАЛІСЯ СВЯТЛІЦЫ

У Шудзялаве шмат моладзі, якая не мела дзе сабрацца, не мела дзе арганізаваць якой-небудзь забавы. А без гэтага моладзі цяжка абысціся. Ёй патрэбна і танцавальная вечарына і цікавая сустрэча з пісьменнікам. Юнакі і дзяўчаты часта прыходзілі ў мясцовую бібліятэку на тэлевізійныя перадачы. Некаторыя ішлі ў мясцовы бар на сто грам і на піва.

Справа святліцы нарэшце высветлілася. Пабудаваны тут новы будынак для міліцыі, а тое памяшканне, у якім быў пастарунак, ГРН пераказала на святліцу. І ўжо моладзь мае дзе правесці сход, арганізаваць забаву. Але пакуль што ў святліцы няма патрэбнай мэблі, радыёпрыёмніка, тэлевізара. І ў гэтай справе патрэбны намаганні не толькі моладзі, але і ГРН-у.

*А. С., Шудзялава*

## НАВАГОДНІЯ ЁЛКІ

16-га студзеня ў пачатковай школе на вуліцы Горнай у Гайнаўцы пад кіраўніцтвам настаўніцы Анны Шыла была арганізавана ёлка для школьнікаў. У багатай мастацкай частцы дзеці выступілі з беларускімі, рускімі і польскімі песнямі, вершамі, скетчамі. На ёлку прыйшло шмат бацькоў. На школьнай урачыстасці прысутнічаў старшыня гарадской рады нарадовай К. Ляшчынскі, радны А. Саевіч, старшыня павятовага праўлення ЗМВ Я. Казлоўскі і сакратар павятовага праўлення аддзела Беларускага таварыства В. Бура.

Мастацкая частка ў выкананні школьнікаў усім спадабалася. Шмат радасці дзецям прынёс дзед Мароз, які ўручыў ім падарункі.

*Тэкст і фота Віктар Бура, Гайнаўка*



*Кіраўнік школы ў Горным Анна Шыла і яе выхаванкі падчас мастацкай часткі.*

* ✲ *

У беларускім ліцэі ў Бельску Падляшскім 16-га студзеня таксама адбылася навагодняя ёлка. Да яе моцна рыхтаваліся ўсе вучні паасобных класаў. У нас кожны год адбываецца конкурс на найлепш упрыгожаны клас. Хто заняў першыя тры месцы, атрымаў узнагароды. Школьная ўрачыстасць пачалася супольнымі танцамі ў фізкультурнай зале, а пасля вучні разышліся па сваіх класах, каб разам са сваімі выхавацелямі павячэраць і атрымаць ад дзеда Мароза падарункі. Затым зноў усе пайшлі на танцы.

*Вера Ахрымюк, Бельскі бел. ліцэй*

* ✲ *

Навагодняя ёлка для дзяцей у Дубічах Царкоўных адбылася 24 студзеня. Праходзіла яна вельмі ўрачыста. Вучні спявалі песні, дэкламавалі вершы, выступалі са скетчамі і гумарамі. Затым дзед Мароз уручыў дзецям падарункі. Бацькі, якія прысутнічалі на ёлцы, былі задаволены, што школьная ёлка была так добра падрыхтавана.

*Мікалай Панфілюк, Дубічы Царкоўныя*

* ✲ *

16 і 17 студзеня 1971 года ў многіх школах Беластоцкага павета адбылася школьная ёлка. Між іншым, і ў Тапалянах, Подварках і Патоцы. Вельмі цікава адбывалася гэтая ўрачыстасць ў Патоцы. Прыбылі сюды госці з апякунчай адзінкі, якія на гэтую ўрачыстасць прыязджаюць кожны год. З імі разам прыехаў дзед Мароз у спецыяльна падрыхтаванай вопратцы. Ён нічым не адрозніваўся ад Мароза, вандруючага перад беластоцкімі таваровымі дамамі перад Новым годам. Уручыў ён кожнаму вучню падарунак на суму каля 40 зл. Падарункі гэтыя закупілі апекуны з ВСТВ. Прысутныя маглі паслухаць і паглядзець рэпертуар, падрыхтаваны дзяцьмі, а, між іншым, кароткую сцэнку з «Зоркі» «Бабуля прыехала». Пасля можна было патанцаваць каля ёлкі. На акардэоне падыгрывалі дырэктар апякунчай адзінкі Кірыл Амброжэй і мясцовы настаўнік.

*Патока, Мікола Краўчук*

## ЯШЧЭ РАЗ АБ СТРАХАВАННІ

Страхаваннем ахоплены ўсе будынкі на вёсцы. Калі здарыцца няшчасце — згарыць хата, або якія іншыя будынкі, селянін атрымоўвае страхоўку і можа адбудавацца. Добра было б, каб ПЗУ страхавала будынкі ад знішчэнняў ветрам. А часам здараецца так, што ломяцца кроквы, завальваецца дах ад снегу. І ў гэтым выпадку селянін ад ПЗУ нічога не атрымлівае.

(сл)

# Сардэчныя тайны

*Дарагое Сэрцайка!*

Мне 18 год. Нядаўна стала я працаваць у горадзе. Зарабляю нямнога, бо не закончыла я нават пачатковую школу. Жыву ў сваёй сяброўкі, якая мае спулдзельчую кватэру. Не мінуў яшчэ месяц, як я пазнаёмілася з Алікам. Алік з'яўляецца сваяком маёй сяброўкі. Ён працуе ў войску, добра зарабляе, неўзабаве атрымае кватэру (так мне ён сам гаварыў). Нядаўна ён ізноў прыехаў, цяпер ужо каб «убачыць мяне». Быў два дні. Гаварыў, што ажэніцца, каб толькі я згадзілася быць яго жонкай. Прасіў, каб мы паехалі на вёску да маіх бацькоў. Усё мы абмеркавалі ў дэталях, толькі Алік не падаў тэрміну шлюбу. Але мне ён спадабаўся і я б хацела як найхутчэй выйсці за яго замуж. Я нават напісала ўжо дамоў пісьмо, каб мне ўсё падрыхтавалі: падушкі, коўдру і ўсю іншую пасцель. Паколькі Алік жыве ў другім горадзе, я вырашыла звольніцца з працы. Толькі мая сяброўка ўстрымлівае мяне, кажа, што я занадта спяшаюся з гэтай справай і што не варта яшчэ звальняцца з працы. Яе думка мяне таксама прымусіла крыху прызадумацца, чаму сяброўка мае нейкія там сумненні? Здаецца мне, што гэта ўсё вельмі простае. А што ты на гэта?

*Таня з Беласточчыны*

*Таня!* На жаль, прызнаю рацыю тваёй сяброўцы (відаць, яна крышку старэйшая ад цябе і ўмее лепш думаць). З лісту твайго можна сказаць, што цябе, як кажуць «купалі ў гарачай вадзе». Не гаворачы ўжо аб тым, што табе яшчэ рана выходзіць замуж, тым больш за хлопца, якога ты бачыла толькі два разы, дык трэба перш за ўсё скончыць пачатковую школу, набыць нейкую прафесію. Зрэшты, Алік не сказаў яшчэ табе канкрэтна аб тэрміне падавання дакументаў у ЗАГС-е, а ты ўжо пішаш такія лісты дахаты. А што будзе, калі справа адменіцца? Ці ты аб гэтым падумала? Так жа можа стацца, так бывае, хоць не абавязкова быць павінна. А працу знайсці не так лёгка, тым больш, што ты не скончыла нават пачатковую школу. Штодзённае жыццё, прыклады сведчаць аб тым, што кожная дзяўчына павінна атрымаць жыццёвую падрыхтоўку (г.зн. адукацыю, прафесію) і толькі тады выходзіць замуж. У такім выпадку, калі б нават здарылася, што жанчына застанецца зноў адна, або нават з дзяцьмі, яна можа зарабіць на сябе і на дзяцей. Таму вось раю табе, Таня, падумаць над гэтым, пакуль прымеш канчатковае рашэнне.

*Сэрцайка*

---

прыяцеля, прэм'ера.

Рускія і амерыканцы засмяяліся. Англічане зноў, пазіраючы на свайго лідэра, сядзелі моўчкі з сумнымі тварамі. Чэрчыль апусціўся ў крэсла, але адчувалася, што ў ім яшчэ кіпіць гнеў.

— Давайце спынім гэту дыскусію, — сказаў Гопкінс. — Да Германіі яшчэ шмат міль, а да перамогі над гітлераўцамі яшчэ шмат месяцаў...

Аднак Сталін далей выпытваў прысутных пра іх думку. Калі ўрэшце прыйшла чарга на сына прэзідэнта, Эліёта, які таксама быў на абедзе, той устаў і, крыху збянтэжаны, рашуча адказаў:

— Ці часам гэта не акадэмічная праблема? Дык калі нашы арміі рушаць з захаду, а рускія будуць працягваць наступленне з усходу, пытанне будзе вырашана, ці не так? Рускія, амерыканскія і англійскія салдаты парахуюцца ў барацьбе з большасцю гэтых злачынцаў...

Сталіну спадабаўся адказ. Ён абышоў з кілішкам стол, спыніўся каля Эліёта, абняў яго і, усміхаючыся, сказаў:

— Дасканалы адказ! За ваша здароў'е, Эліёт!

Тут Чэрчыль узарваўся ізноў. Нахіляючыся над сталом і пагражаючы пальцам Эліёту, ён зароў:

— Што, вы хочаце папсаваць адносіны паміж саюзнікамі? Ці вы разумееце, што вы сказалі? Як вы маглі штосьці падобнае сказаць?..

Эліёт збянтэжана сеў у крэсла, забаўна засланяючы твар рукамі, так што ўсе прысутныя зарагаталі. Напружанне мінула.

Неўзабаве ўсе перайшлі ў суседні пакой на каву. Гэтым вечарам Чэрчыль не падыходзіў да савецкіх дэлегатаў. Яго сумны твар пакрыўся чырвонымі плямамі; больш энергічна, чым заўсёды, курыў ён цыгару.

Гвалтоўная рэакцыя Чэрчыля на прапанову пакарання гітлераўскіх злачынцаў не была прыпадковай. Самое ў сабе тое патрабаванне не магло быць неспадзяваным для брытанскага прэм'ера. Яго ж подпіс віднеў пад дэкларацыяй шэфаў урадаў трох дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі, апублікаванай 3 лістапада 1943 года.

«Дэкларацыя ў справе адказнасці гітлераўцаў за ўчыненыя злачынствы», замацаваная таксама подпісамі Рузвельта і Сталіна, гаварыла: «...Немцы, якія ўдзельнічалі ў масавых расстрэлах італьянскіх афіцэраў, французскіх, галандскіх, бельгійскіх ці нарвежскіх заложнікаў, або крэтскіх сялян, немцы, што ўдзельнічалі ў вынішчэнні, якому падвергся польскі народ ці насельніцтва тых абшараў Савецкага Саюза, якія цяпер ачышчаюцца ад праціўніка, павінны ведаць, што будуць дастаўлены на месца, дзе ўчынілі свае злачынствы і там асуджаны народамі, якія палі ахвярай іх насілля. Няхай тыя, што дагэтуль не скрывавілі сваіх рук крывёй нявінных ахвяр, сцерагуцца, каб не знайшліся ў ліку вінаватых; бо тры саюзныя дзяржавы знойдуць іх нават на канцы свету і выдадуць іх абвінаваўцам, каб сталася справядлівасць...»

Здавалася б, што пасля гэтай дэкларацыі прапанова пакарання гітлераўскіх ваенных злачынцаў не магла выклікаць супраціўлення. Справа ж была не ў помсце на нявінных. Відаць, Чэрчыль лічыў аднак дэкларацыю трох дзяржаў толькі прапагандным жэстам, а ў душы думаў зусім аб іншым. Да таго, у меру далейшага прасоўвання савецкіх войск на захад і набліжэння іх да граніц Трэцяга рэйха, Чэрчыль пачаў думаць над тым, як выкарыстаць гітлераўскіх бандытаў да ажыццяўлення ўжо ўзыходзячых у яго галаве планаў стварэння новага «санітарнага кардона» вакол СССР.

*(Працяг будзе)*

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

### КЛЯШЧЭЛІ

„Mam 20 lat" (radz.), 16—17. „Skowronek" (węgierski) 18—19. „Gang Olsena" (duński), 20—21.

### НАРАЎКА

„Płomień nad Adriatykiem" (jugosł.), „Taszkient miasto chleba" (radz.), 17—21.

### НАРВА

„Gra" (polski), „Zabawa w masakrę" (franc.), 17—21.

### ЧЫЖЫ

„Hugo i Józefina" (szwedzki), „Raj na ziemi" (polski), 17—21.

### ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ

„Sąsiedzi" (polski), „Profesor zbrodni" (węgierski), 17—21.

### АРЭШКАВА

„Ostatni watażka" (bułg.), „Profesor zbrodni" (węgierski), 20—21.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

### БОЦЬКІ

„Nie ma powrotu Johny" (polski), „Operacja Belgrad" (jugosł.), 17—21.

### ОРЛЯ

„Powrót rewolwerowca" (USA), „Zbyszek" (polski), 17—21.

### РАЙСК

„Szlacheckie gniazdo" (radz.), „Polowanie na muchy" (polski), 17—21.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

### МІХАЛОВА

„Rozwód z miłości" (węgierski), 16—17. „Wkrótce będzie koniec świata" (jugosł.), 18—19. „Prom" (polski), 20—21.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

### КРЫНКІ

„Oddział Turbaczowa" (radz.), 16—17. „Na los szczęścia Baltazarze" (franc.), 18—19. „Gang Olsena" (duński), 20—21.

### ЯНАЎ

„Twarz anioła" (polski), 17—21.

## СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

### НУРЭЦ

„Pod karnawałową maską" (kubański), 16—17. „Słoń Maruda" (ang.), 18—19. „Mrok za dnia" (węgierski), 20—21.

### МЕЛЬНІК

„Dialog" (węgierski), 16—17. „Niezawodni przyjaciele" (rumuński), 18—19. „Jarzębina czerwona" (polski), 20—21.

### МІЛЕЙЧЫЦЫ

„Miłosne kłopoty" (radz.), 16—17. „Wyzwanie dla Robin Hooda" (ang.), 18—19. „Jarzębina czerwona" (polski), 20—21.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

### СУХАВОЛЯ

„Labirynt miłości" (radz.), „Największe widowisko świata" (USA), 17—21.

### НОВЫ ДВОР

„Dwaj panowie bez parasola" (rumuński), „Francja naprzód" (franc.), 17—21.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7000 E-3

# БАРАН і ПЕС

Баран прыйшоў на канцэрт. Па службовых абавязках. Бачыць: грае аркестр. Дырыгуе Сабака. Усе вельмі сумленна працуюць: хто ў трубу дуе, хто на скрыпцы пілікае, хто ў бубен б'е. А Пёс — дырыжор толькі лапамі махае.

Зацікавіўся: гэта ў Пса і ўся работа? І колькі ж ён за такое маханне атрымлівае? Высветлілася: дакладна столькі ж, колькі і ён, Баран.

Вось так! Але ж ён, Баран, якую адказнасць нясе! Амаль штодня бэкаць мае на каго-небудзь. Не паспееш дзе новыя вароты паставіць, як адразу ж яго, Барана, пасылаюць, каб глянуў на іх, ацаніў. Ды і заўсёды бойся, каб часам Воўк на рэвізію не з'явіўся. І за ўсё гэта ён, аказваецца, атрымлівае не больш, чым той Пёс, што толькі лапамі махае.

Адным словам, падаў Баран заяву: хачу, маўляў, узяць канкрэтную работу, памяняцца з Сабакам пасадамі.

Зважылі на заяву. Стаў Баран дырыжорам, а Сабаку перавялі на баранюю работу.

Пёс, трэба сказаць, хутка асвоіўся на новай пасадзе. Бегаў з месца на месца, голасна гаўкаў на каго трэба. А дзе трэба, жартаўліва хвосцікам махаў. І добра спраўляўся. Заўваг прынамсі не было. А ў Барана нічога не выйшла. Не меў ён, высветлілася, сабачага слыху. І таму аркестр пад яго кіраўніцтвам не здатны быў сыграць нават «Сабачага вальса».

Пайшоў Баран, куды трэба, і пачаў прасіцца на старую работу. Выклікалі тады Сабаку, куды трэба, і сказалі:

— Ідзі, дырыгуй сабе зноў. А сюды Баран вернецца.

— Чаму? — здзівіўся Пёс.

— Гэта не твая сабачая справа! — зычліва вытлумачылі яму.

І ўсё зноў стала на свае месцы...

Рэзалюцыя: «Неабходна ў найбліжэйшы час дабіцца такога становішча, каб кожны працаваў на тым месцы, дзе ён можа прынесці найбольш карысці».

*А. Крукавец*



# НІЎКА



## Талаваломка

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 8 | 3 | 7 | 2 | 4 | 6 |
| 4 | 8 | 2 | 9 | 2 | 8 |
| 5 | 2 | 5 | 1 | 5 | 6 |
| 9 | 1 | 6 | 7 | 2 | 8 |

Прамавугольнік раздзяліце на шэсць роўных частак, каб сума чатырох лікаў у кожнай з іх раўнялася 20.

* * *

*Адказ на заданне з папярэдняга нумара:*



### НАВОШТА

Сусед да суседа:

— Што ты нясеш у мяшку?

— Памацай, будзеш ведаць.

— Я і так чую, што парася голас падае.

— Навошта ж тады пытаеш?

— Хачу ведаць, свінка ці парсючок.

### НА ЯКІМ

Маленькая Андрыен доўга разглядала льва ў клетцы, потым спытала ў бацькі:

— На ўсякі выпадак, калі раптам вырвецца на свабоду і з'есць цябе, на якім аўтобусе мне ехаць дадому?

### «ПЕСІМІСТ»

То аб людскім нялёгкім лёсе,
То пра маршчыны ад турбот,
То пра імшарыны увосень
Ён піша нам не першы год.
То пра журботны спеў дубровы,
Пра ціхі могільнік, крыжы...
А сам ружовы і здаровы,
Хоць у фурманку запражы.

*Ул. Ляпёшкін*

### НЕ ВІНАВАТЫ

Вы абяцалі мне адрамантаваць электрычны званок, — гаворыць электраманцёру.

— Я прыходзіў да вас некальскі разоў, але ж да вас нельга дазваніцца.

### ДВА ГАДЫ...

— Доктар, — сказаў пацыент, — мабыць, вы мяне ўспомніце? Два гады таму назад вы лячылі мяне ад рэўматызму.

— Сапраўды.

— І вы мне парaілі пазбягаць сырасці.

— Безумоўна.

— Добра, але ж ці можна ўжо мне прыняць ванну.



*Забалбаталіся.*

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Марысі Г. з Парцава, Рэнаты Жукоўскай і Элі Стэльмах з Чаромухі, Марысі Хакала са Свіслачан, Тэрэсы Лісоўскай, Рэгіны Быцуль, Марысі Чыквін і Антона Кліма з Беластока змяшчаем песню:

### PIOSENKA DLA BEATY

Słowa: Jan Krynicz
Muzyka: Stefan Musiałowski

Beato, Beato,
uśmiechnij się jak ja!
Już lato, Beato,
a ty chodzisz ulicami chmurna, zła!
Dopiero, Beato,
masz osiemnaście lat.
W tym wieku nie warto
bez powodu dąsać się na cały świat!

To przecież dla ciebie to słońce
i ptaków przelotnych klucz,
i lasów cień na horyzoncie,
więc smutki za siebie rzuć!

I zanim, Beato,
powieje chłodny wiatr,
nim skończy się lato,
przez różowe okulary spójrz na świat!
Canto:
Są piosenki kolorowe,
kolorowe sny,
są podróże kolorowe,
kolorowe dni.
Są zielone, leśne ścieżki,
srebrne wstążki rzek —
nie dla ciebie, bo wspominasz
zeszłoroczny śnieg.
Beato, Beato,
uśmiechnij się jak ja! itd.





*Трук века: на прыёме ў бюракрата.*

### МУЖЫК ВІНАВАТЫ

Паставіла жонка ў печ валёнкі сушыць. А жар з печы добра не выграбла, дык у адным валёнку ўся падэшва выгарэла.

— Што ж я нарабіла, — спалохалася жанчына, — будзе мне цяпер ад мужыка. Ат, што будзе, то будзе, — рашыла яна і назад у печ валёнкі паставіла.

А неўзабаве сусед паклікаў іх на святочную вячэру.

За сталом жонка шэпча мужыку:

— Хадзем хутчэй дадому, а то валёнкі згараць.

— Няхай гараць, — адказаў мужык, бо хацеў яшчэ выпіць. А жонцы гэтага толькі і трэба было.

Прыйшлі дадому. Жонка — адразу ў печ, дастала прапалены валёнак і тыц ім у самы твар мужыку:

— Я ж табе казала, што валёнкі згараць.

### ПАМЯТНЫ БАЛЬ

— Ніколі не забуду той баль, дзе я сустрэўся з жонкай.

— Было рамантычна?

— Не, я вельмі збянтэжыўся. Я ж думаў, што яна дома, з дзецьмі.

### ДАР ПЕРАКАНАННЯ

На судзе па справе аб крадзяжу аўтамабіля адвакат абвінавачваемага пытае ў пацярпеўшага:

— Дык вы ўсё яшчэ ўпэўнены ў тым, што абвінавачваемы ўкраў ваш аўтамабіль?

— Ці ведаеце, пасля вашага выступлення я пачынаю сумнявацца ў тым, ці быў ён у мяне наогул.

### МОВА

Вядомы фізік Лео Стылард чытаў свой першы даклад на англійскай мове. Пасля дакладу да яго падышоў фізік Джэксан і спытаў: «Паслухайце, Стылард, на якой мове вы рабілі даклад?» Стылард збянтэжыўся, але тут жа знайшоўся і адказаў: «Вядома, на венгерскай, хіба вы гэтага не зразумелі?». «Я то зразумеў. Але навошта вы напіхалі ў яе столькі англійскіх слоў?» — адпарыраваў Джэксан.

### У ШКОЛЕ

— Янка, — пытае настаўніца вучня, — дзе можна знайсці сланоў?

— Нідзе, яны вельмі вялікія, каб іх мог хто-небудзь губляць.

### НЕБАРАКІ

Два чыноўнікі сустракаюцца ў калідоры міністэрства.

— Як справы ў аддзеле? Усё ў парадку?

— І не пытай! Шэф прымушае працаваць за чацвярых!

— Небаракі!

— Але, дзякуй богу, нас восем.



*Хуткая дапамога.*

## Курёзы

### ПАЎЗКОМ ДА ФІНІШУ

Упершыню ў гісторыі кракадзілавыя гонкі былі праведзены на фешэнебельным аўстралійскім курорце Кэрнс у штаце Квінсленд. У якасці імправізаванага іпадрома быў выбран тэнісны корт, на якім спаборнічала 36 паўзуноў даўжынёй ад 15 сантыметраў да 2 метраў. Нягледзячы на строгія правілы і кваліфікаванне судзейства, у дзевяці ўдзельнікаў спаборніцтваў былі адкусаныя сапернікамі лапы і хвасты. Пераможцам, паводле паведамлення агенцтва Рэйтэр, аказаўся 120-сантыметровы кракадзіл па мянушцы «Казанова».

### АДЗІНАЯ НЕПРЫЕМНАСЦЬ

У рэстаране аднаго парыжскага фешэнебельнага атэлья на рахунку, які выпісваецца наведвальніку, чорным шрыфтам надрукавана зварот дырэкцыі: «Мы ўручаем Вам рахунак, спадзеючыся, што сума, якую Вам прыйдзецца заплаціць, — адзіная непрыемнасць, якая напаткае Вас у нашым гасцінным атэлі».

### ПОШУК ЗАЦЯГНУЎСЯ

Паліцыя італьянскага вострава Сардынія вось ужо гадоў пяць беспаспяхова расшуквае бандыта Джузепе Кампанья. За гэты ж час яго жонка нарадзіла чатырох дзяцей, падобных на Джузепе, як дзве кроплі вады. Цяпер яна чакае пятае дзіця. Усе мясцовыя жыхары ведаюць, што ўжо ўзгодненa сямейная сігналізацыя»: вінтовачныя стрэлы паведамляюць бацьку-ўцекачу аб нараджэнні сына, а пісталетныя — дачкі.

А паліцыя па-ранейшаму ў пошуках. Дзе ж гэты бандыт Кампанья?




*Звышдружба: — усё жыццё дзяліліся адной скарынкаю — большага адзін другому шкадавалі.*